

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

8 ЛЮТАГА 2002г. № 6/4140 КОШТ 280 РУБ.



**БУДЗЬМА РАЗАМ!**

*Шаноўныя чытачы!*

*Напамінаем, падпіска на "ЛіМ" на першае паўгоддзе працягваецца. Яе можна аформіць у любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — 1100 рублёў, на тры — 3300 рублёў, на пяць — 5500 рублёў.*

**Індывідуальны індэкс — 63856.**

*Кошт ведамаснай падпіскі на адзін месяц — 2500 рублёў, на тры — 7500 рублёў, на пяць — 12500 рублёў.*

**Ведамасны індэкс — 63857.**



*Фота Ю. ЗАХАРАВА*

*Першы подых вясны,*
*Лёгкі подых цяпла,*
*І збываюцца сны*
*На ўзбярэжжы святла...*



# КОЛА ДЗЁН

***Сёння ў Солт-Лэйк-Сіці стартавалі XIX зімовыя Алімпійскія гульні. Наша зборная спадзяецца вярнуцца дамоў з высокімі ўзнагародамі. А як яно будзе – пакажа час і самі спартсмены. Але трэба спадзявацца, што рэкорды будуць. Рэкорды ставяць не толькі людзі, а і прырода. Так апошнім часам дзякуючы паўднёва-заходнім вятрам, на тэрыторыі нашай краіны стаіць выключна цёплае надвор'е ў межах 8-15 градусаў. Плюс 10 градусаў было зафіксавана ў мінулую нядзелю ў Мінску. Такая высокая тэмпература паветра ў першую пяцідзёнку лютага назіралася сёлета ўпершыню за 120 гадоў сінаптычных назіранняў. Але якім бы ні было надвор'е, жыццё працягваецца і ў кожнага яно сваё...***

### ПАЗІЦЫЯ ТЫДНЯ

Нарэшце, здаецца, Беларусь і Расія зблізілі свае пазіцыі ў вырашэнні пытанняў тарыфнай палітыкі на пастаўкі газу. Ужо дасягнута дамоўленасць бакоў прадаваць нашай краіне газ па тарыфах цэнавага пояса Смаленска і Бранска, а гэта значыць, што цана кубаметра газу будзе на 11 долараў меншай, чым па тарыфах, якія дзейнічаюць цяпер, і складзе 19 долараў. Новыя тарыфы для Беларусі будуць ніжэйшыя за цяперашнія нават пасля планаемага ў Расіі падаражання энерганосьбітаў. Хочацца спадзявацца, што абяцанае нам не давядзецца чакаць некалькі гадоў...

### ПАДРЫХТОЎКА ТЫДНЯ

Не першы год рыхтуецца праект закона аб альтэрнатыўнай службе. І, здаецца, ён ужо амаль гатовы і сёлета будзе прыняты. Згодна з законапраектам, замена тэрміновай службы на альтэрнатыўную прадугледжана для прызыўнікоў, што маюць рэлігійныя перакананні, а таксама для юнакоў, якія выхоўваюцца ў няпоўных сем'ях. Міністэрства абароны Беларусі прагназуе, што адразу пасля прыняцця закона жаданне ісці на альтэрнатыўную службу выкажуць каля 300 чалавек, а потым колькасць «альтэрнатыўшчыкаў» стабілізуецца на ўзроўні 50-60 чалавек у прызыў. Лічбы не вялікія і здаюцца заніжанымі, але калі ведаць, што тэрмін альтэрнатыўнай службы будзе ў два разы большы, чым ваенны, то сапраўды лепей год пахадзіць з аўтаматам, чым два гады з рыдлёўкай...

### ІНФАРМАЦЫЯ ТЫДНЯ

У друку ўжо не першы раз з'яўлялася інфармацыя, што нашу краіну чакае пенсійная рэформа. І вось зноў сродкі масавай інфармацыі загаварылі пра гэта, і нават ісцне меркаванне, што пенсійная рэформа можа пачацца ўжо ў лютым гэтага года, калі ўрад падтрымае прапанову Міністэрства працы і сацыяльнай абароны аб падвышэнні пенсійнага ўзросту. Падвышаць яго плануецца на 3-6 месяцаў у год. І глядзім, праз некаторы час у нашай краіне, калі меркаваць па лічбах сярэдняй працягласці жыцця нашых грамадзян, мала хто будзе дажываць да пенсіі. Праўда, дажыць кожны чалавек можа і да 100 гадоў, але, як гаворыцца, хто яму дасць і, да ўсяго, ці абярэжа ён сябе ад спакус, якія забіраюць апошняе здароўе...

### КАНСУЛЬТАЦЫІ ТЫДНЯ

Не першы год ужо гаворыцца, што каб трапіць у Польшчу трэба будзе віза. І вось у Мінску адбыліся кансультацыі паміж Міністэрствамі замежных спраў Беларусі і Польшчы на ўзроўні кіраўнікоў палітычных дэпартаментаў. Польскім бокам было зазначана, што пры ўвядзенні візавага рэжыму МЗС Польшчы і органы дзяржаўнай улады зробяць максімум для таго, каб пасля ўвядзення віз у беларусаў не склалася ўражанне, што палякі да іх павярнуліся спіной. Візавы рэжым у адносінах да Беларусі Польшча ўвядзе ў 2003 годзе і не з самага пачатку года. Словам, пакуль можна ў Польшчу ехаць без асаблівых праблем, скарыстайце гэты момант, каб пасля не шкадаваць...

### ЗВЕСТКІ ТЫДНЯ

Паводле звестак Міністэрства статыстыкі і аналізу, у рублёвым вылічэнні зарплата за мінулы год узрасла на 89,7 працэнта (з 91,961 да 174,422 рубля), а ў доларавым эквіваленце — з 75 да 108 долараў. Аднак можна чуць ад некаторых жыхароў нашай краіны: «Не трэба нам 100 долараў, якія атрымаеш невядома калі, а дайце нам за нашу працу хоць 50, але сёння...»

### ПАДАРАЖАННЕ ТЫДНЯ

З 1 лютага ў Мінску адразу на 50 працэнтаў падаражаў праезд у грамадскім транспарце. Цяпер аднаразовы талончык каштуе 120 рублёў, праязны на адзін від транспарту — 5400, на два — 7200, на тры — 8400, на чатыры — 9600 рублёў. Ільготнікі па-ранейшаму плацяць палову ад гэтых коштаў. Нягледзячы на падаражанне праезду, транспартнікі не пакрываюць расходаў на перавозкі. Да ўсяго, Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі мае намер ініцыіраваць увядзенне розных відаў талончыкаў на праезд у гарадскіх аўтобусах і тралейбусах сталіцы.

А справа ў тым, што сёння гарадскімі аўтобусамі і тралейбусамі перавозіцца прыкладна аднолькавая колькасць пасажыраў, але датацыі з мясцовага бюджэту на пакрыццё страт, што ўтвараюцца ў выніку фіксаванага кошту праезду, «тралейбуснікі» атрымліваюць у некалькі разоў меней.

### ПРАГНОЗ ТЫДНЯ

Прагноз — справа няўдзячная, але прагнозы могуць з цягам часу стаць рэальнасцю. Добра, калі прагнозы— пра лепшае жыццё, але ёсць і сумныя прагнозы... Так прагноз, які быў зроблены 20 гадоў назад, што ў 2000 годзе на зямным шары на рак павінны захварэць 20 мільёнаў чалавек, поўнасцю спраўдзіўся. У Беларусі ў 2000 годзе было выяўлена 33 тысячы хворых са злаякаснымі пухлінамі. Кожныя 16 хвілін медыкі рэгіструюць новы выпадак раку. Штодня колькасць хворых на анкалагічную паталогію ў краіне павялічваецца на 90 чалавек. Страшна... І ўсё ж, як гаворыцца, гэта не самы страшны страх, бо ў наступныя 20 гадоў анкалагічныя захворванні пацяснядь сардэчна-сасудзістую паталогію і выйдуць на першае месца сярод прычын смяротнасці насельніцтва нашай планеты. Цяпер у індустрыяльна развітых краінах свету ад ракавых захворванняў гіне 25 працэнтаў насельніцтва. Нас можа суцешыць толькі тое, што мы не лічымся высокаіндустрыяльнай краінай. У краінах, якія развіваюцца, гэта лічба складае 5 працэнтаў. І ўсё ж...

### ЖАРАБ'ЁЎКА ТЫДНЯ

У партугальскім горадзе Порту прайшла жараб'ёўка адборачных матчаў чэмпіянату Еўропы па футболе, фінальная частка якога пройдзе з 12 чэрвеня па 4 ліпеня 2004 года. Каманда Беларусі трапіла ў адборачную групу № 3 і ёй давядзецца гуляць са зборнымі Галандыі, Чэхіі, Аўстрыі і Малдовы. Па рашэнні УЕФА ўсе адборачныя матчы павінны прайсці ў наступныя даты: 2002 год. 7-8 верасня, 12-13 і 15-16 кастрычніка. 2003 год. 29-30 сакавіка, 1-2 красавіка, 7-8 і 10-11 чэрвеня, 6-7 і 9-10 верасня, 11-12 кастрычніка. Каманды, якія зоймуць другія месцы, разыграюць пяць пуцёвак у стыкавых матчах, якія прызначаны на 15-16 і 18-19 лістапада 2003 года. Будзем балець за нашых хлопцаў!

СУСТРЭЧЫ

# Да разнастайнасці моў і культур

У Грамадскім прэс-цэнтры Дома прэсы адбылося пасяджэнне "круглага стала", дзе былі абмеркаваны пытанні падрыхтоўкі да міжнароднага сімпозіума «Разнастайнасць моў і культур у кантэксце глабалізацыі». Сімпозіум, ініцыятарам правядзення якога стаў Саюз беларускіх пісьменнікаў, мае адбыцца 9—10 ліпеня 2002 года.

У пасяджэнні прынялі ўдзел старшыня нацыянальнай камісіі па справах ЮНЕСКА ў Рэспубліцы Беларусь Уладзімір Шчасны, намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Ліля Ананіч, намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Валерый Гедройц, дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Надзея Цыркун, каардынатар праекта Міжнароднага сімпозіума Васіль Якавенка, старшыня Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны Алег Трусаў, кіраўнік семінара «Вытокі фізічнага і духоўнага тэрарызму ва ўмовах глабалізацыі» Адам Мальдзіс, старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольга Іпатава.

Імпульсам для правядзення такога сімпозіума стала нядаўна прынятая ЮНЕСКА дэкларацыя «Аб разнастайнасці культур». Васіль Якавенка ў сваім выступленні прывёў меркаванне вядомага расійскага філосафа Канстанціна Лявонцьева, што змяншэнне біялагічнай разнастайнасці вядзе да дэградацыі — гэтак жа і ў разнастайнасці культурнай.

Мэта сімпозіума: усебакова вывучыць пастаўленую праблему, раскрыць яе своеасаблівасць і вастрыню на фактах беларускай гісторыі, гісторыі іншых краін, выпрацаваць рэкамендацыі па захаванні і абароне моў і культур малых народаў ва ўмовах глабалізацыі, садзейнічаць наладжванню і аднаўленню кантактаў беларускіх пісьменнікаў, мованазнаўцаў, дзеячаў культуры са сваімі калегамі ў свеце.

**Наш кар.**

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Пад старшынствам Вольгі Іпатавай прайшла чарговая камісія па правядзенні міжнароднага сімпозіума «Разнастайнасць моў і культур у кантэксце глабалізацыі».

У ёй удзельнічалі намеснік міністра інфармацыі Л. Ананіч, намеснік міністра культуры В. Гедройц, старшыня ТБМ імя Ф.Скарыны А. Трусаў, каардынатар праекта В. Якавенка, дырэктар Скарынаўскага цэнтра Л. Уладыкоўская-Канаплянік, доктар філалагічных навук, прафесар А. Мальдзіс.

Былі абмеркаваны бягучыя пытанні падрыхтоўкі да гэтага важнага міжнароднага сімпозіума. Вызначаны бліжэйшыя планы і задачы.

●

Адкрыты ўрок для школьнікаў Мінска, прысвечаны творчасці Міхася Сяднёва, прайшоў у бібіятэцы СБП. Сярод тых, хто прыйшоў на сустрэчу з вучнямі, былі намеснікі старшыні СБП Навум Гальпяровіч і Віктар Праўдзін, пісьменнікі Лідзія Савік, Леанід Леванові ч, Святлана Явар. Яны гаварылі пра жыццёвы і творчы шлях Масея Сяднёва, пра яркі і самабытны талент творцы.

●

Прэзентацыя новай кнігі вершаў Віталя Гарановіча "Святло блакіту" адбылася ў Глыбоцкай сярэдняй школе № 3. Выхад зборніка, які выпусціла выдавецтва "Беларускі кнігазбор", быў прымеркаваны да 50-годдзя паэта.

Сярод тых, хто спрычыніўся да гэтай важнай падзеі, былі старшыня Камітэта лясной гаспадаркі пры Савеце Міністраў РБ М. Крук, дырэктар прадпрыемства "Глыбоцкія электрычныя сеткі" В. Кубарка, дырэктар малочна-кансервавага камбіната Г. Ермаковіч, якія выступілі на прэзентацыі. Сярод выступоўцаў былі і госці з Мінска — рэдактар кнігі Алесь Пісьмянкоў і Навум Гальпяровіч.

Н. Гальпяровіч уручыў юбіляру Грамату Саюза беларускіх пісьменнікаў. Юбіляра віншавалі сябры па Глыбоцка-Полацкай філіі Віцебскага абласнога аддзялення СБП Алесь Жыгуноў, Уладзімір Сауліч, Фама Ляшонак.

●

Адбылася прэс-канферэнцыя па ўстаноўцы помніка Ларысе Геніюш і аб яе рэабілітацыі. На ёй выступілі В. Іпатава, А. Белы, прафесар А. Саламонаў, адвакат Г. Паганяйла.

У шчырай зацікаўленай гаворцы падымаліся пытанні дастойнага ўшанавання адной з выдатнейшых дачок беларускага народа.

**Н.К.**

# У Беларускім саюзе мастакоў

БСМ вылучыў на атрыманне Дзяржаўнай прэміі РБ наступных сяброў саюза: жывапісца **В.Шкарубу** за серыю пейзажаў «Спрадвечнае»; скульптара **А.Дранца** за помнік князю Давыду ў Давыд-Гарадку; мастака-манументаліста **У.Крываблоцкага** (за манументальны роспіс «Рэквіем» у Музеі Вялікай Айчыннай вайны; калектыў мастакоў **В.Даўгялу, Ю.Івахнішына, В.Чайку** за комплекснае архітэктурна-мастацкае рашэнне Палаца Рэспублікі.

●

З прадстаўлення БСМ атрымалі дзяржаўныя стыпендыі дзевячы культуры: **А.Жукоўскі** за серыю жывапісных работ «Міленіум»; **Н.Пілюзіна** за серыю батыкаў «Купалінка»; **І.Пратасеня** за серыю акварэляў «Бацькаўшчына паэтаў»; народны мастак Беларусі **В.Шаранговіч** за цыкл ілюстрацый да кнігі Я.Коласа «Новая зямля», а таксама маладыя мастакі **П.Кандрусевіч** за цыкл партрэтаў сучаснікаў; **Ж.Няхайчык** за серыю жывапісных работ «Свет дзяцінства як сімвал часу», **П.Татарнікаў** за творчы праект серыі ілюстрацый да выданняў беларускіх і замежных аўтараў.

●

БСМ рыхтуе да адкрыцця ў лютым вялікую выставу секцыі скульптуры ў Рызе.

●

На сёняшні дзень, як зазначыў старшыня БСМ **У.Басалыга**, «для саюза вялікай праблемай сталі намаганні падатковых службаў разглядаць дзейнасць мастакоў-сяброў БСМ, якія прадаюць свае творы праз сетку магазінаў, як прадпрымальніцкую. Гэта ставіць мастака ў абразлівае становішча, бо мастак — творца, а не прадпрымальнік. Але ж ужо прыняты закон аб творчай асобе і творчых саюзах, дэкрэт прэзідэнта, дзе фіксаваны падатак выплачваюць толькі тыя мастакі, якія не з'яўляюцца сябрамі БСМ і прадаюць свае вырабы на плошчах і вуліцах. Гэта не павінна датычыць сяброў саюза. Але растлумачыць гэту розніцу падатковай інспекцыі, якая не ўнікае ў спецыфіку мастакоўскай працы, мы не можам. Мы лічым, што можа адбыцца грубае парушэнне правоў сяброў нашага саюза і будзем адстойваць сваю думку на любым узроўні».

# Узнагароды «Спадчыны»

18 студзеня ў памяшканні музея Янкі Купалы адбылася чарговая ўрачыстая вечарына грамадска-асветніцкага клуба «Спадчына», кульмінацыяй якой было віншаванне вядомага беларускага мастака Яўгена Ціхановіча з 90-гадовым юбілеем і ўшанаванне яго пачэснай і ганаровай узнагародай — бел-чырвона-белай стужкай з выявай Пагоні і з надпісам «Ганец адраджэння». Той унёсак у беларускае выяўленчае мастацтва, які зрабіў за сваё доўгае жыццё юбіляр, заслугоўвае самых лепшых ухвалаў.

Пасля адбылася астатняя ганараванні: медалём з выявай Язэпа Лёсіка (вядомага беларускага філолага) за служэнне роднаму слову была ўзнагароджана выкладчык матэматыкі, дацэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі Людміла Майсеня. У сваім слове ў адказ яна адзначыла трывалую тэндэнцыю ў нашай моладзі да спасціжэння сваёй нацыянальнай адметнасці. Былі прыведзеныя яскравыя прыклады з яе 10-гадовай практыкі выкладання вышэйшай матэматыкі па-беларуску.

Вядомы пісьменнік і даследчык нашай даўніны Арсень Ліс быў узнагароджаны медалём з выявай Язэпа



Драздовіча за глыбокае даследаванне дзейнасці гэтага выбітнага беларускага мастака і культурніцкага дзеяча пачатку мінулага стагоддзя і за напісанне кнігі «Вечны вандроўнік».

Ганаровая ўзнагарода, ордэн «Гонар Айчыны», была ўручана мастаку Алесю Цыркунову, сябру творчай суполкі «Пагоня», за паслядоўную і высокапрафесійную дзейнасць на ніве адраджэння нацыянальнай свядомасці выяўленчымі мастацкімі сродкамі.

Акрамя гэтага, сябрамі клуба «Спадчына» былі абмеркаваны надзённыя пытанні дзейнасці, адно з іх — усталяванне помніка-стэлы «Змагарам за родную мову» ды пытанне аб належным ушанаванні святара-патрыёта ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага.

**А. Я.**

## Асенні рэнесанс у Валожыне

**Мінула пяць гадоў, калі ў свет выйшла першая кніга паэзіі Міхася Курылы "Белы птах". За гэты час у жыцці Міхася шмат чаго адбылося— і вясёлага, і сумнага. Усё гэта, прайшоўшы праз яго душу, пераплавілася ў вершаваныя радкі, якія і склалі новую кнігу вершаў "Асенні рэнесанс".**

**Напрыканцы студзеня ў Валожыне з нагоды выхаду новай кнігі Міхася Курылы прайшло свята паэзіі, на якое ў Раённы цэнтр культуры сабраліся прыхільнікі творчасці свайго земляка. Перад прысутнымі выступілі намеснік старшыні райвыканкама А. Кулак, старшыня райсавета С. Маляўскі, супрацоўніца аддзела культуры райвыканкама В. Андрыеўская, рэдактар райгазеты "Працоўная слава" Т. Шаблыка, дырэктар раённага краязнаўчага музея Н. Лоўчая, дырэктар Цэнтральнай бібліятэкі А. Барахоўская, дырэктар РЦК А. Барадака, дырэктар ЦДТ А. Трацэўская, дырэктар СШ № 1 А. Макарэвіч, прадстаўнікі мясцовай інтэлігенцыі В. Харук, З. Гасціловіч, А.Гедроіць, М. Шакун, Н. Міцэвіч, паэты Валянціна Гіруць-Русакевіч, Людміла Рублеўская і Віктар Шніп. Імі ў адрас Міхася Курылы было сказана шмат цёплых слоў як пра яго самога, так і пра яго паэзію. Не абышлі выступоўцы шчырай увагай і жонку паэта— Таццяну Аляксееўну, якой у "Асеннім рэнесансе" прысвечана шмат твораў.**

**Галоўнай жа на сцэне была паэзія . У выкананні ўдзельнікаў клуба "Летуценнік" пры РЦК можна было паслухаць вершы з прэзентуемай кнігі, а таксама новыя творы, якія чытаў сам аўтар— Міхась Курыла.**

**Вяла вечарыну кіраўнік літаратурнага народнага аб'яднання "Рунь" Надзея Мацвеева.**

**Н.К.**

## Госці купалаўцаў



**У мінулым годзе адбыліся абменныя гастролі паміж Нацыянальным тэатрам імя Янкі Купалы і Магілёўскім абласным драматычным тэатрам. Тэатры пасябравалі, спадабаліся адзін аднаму. Як засведчыў дырэктар Магілёўскага тэатра Андрэй Новікаў, менавіта гастролямі Купалаўскага распачалася праца тэатра ў аднoўленым пасля амаль дзесяцігадовай рэканструкцыі будынка (дарэчы, самай старой з захаваных тэатральных пабудоў на Беларусі). Зараз жа сяброўства працягваецца: купалаўскія рэжысёры ставяць спектаклі ў Магілёве, а лепшыя прэм'еры магілёўскай сцэны бачаць сталічныя гледачы. Першай з іх стала сучасная прытча паводле п'есы Алены Паповай «Успамін аб Вавілоне, або Ал-ла-ла-ум», адзіны гастрольны паказ якой адбыўся ў Купалаўскім тэатры 5 лютага. Спектакль у небанальнай форме прапануе задумацца: хіба рэчы і грошы — гэта галоўнае ў жыцці? У адных іх заўсёды многа, у другіх, адпаведна, мала. У каго шукаць справядлівасці і ці ёсць яна? «Успамін аб Вавілоне...» — адна з самых цікавых прац мінскага рэжысёра Уладзіміра Савіцкага, якому ў стварэнні спектакля дапамагалі мастак Віктар Цімафееў і адказны за музычнае афармленне Павел Захаранка. Распавядалі «сучасную прытчу» заслужаны артыст Расіі А. Палкін, заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Р. Белацаркоўскі, Г. Лабанок і іншыя артысты тэатра.**

**Наступнымі гасцямі галоўнай сталічнай сцэны стануць віцябчане. У панядзелак, 11 лютага на вялікай сцэне Купалаўскага адбудзецца дабрачынны паказ спектакля «Кахаю, спадзяюся, чакаю...», які прывязе Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа. Гэта апошняя пастаноўка вядомага рэжысёра, паэта, драматурга, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі РБ Валерыя Маслюка. Яму належыць пераклад, сцэнічная рэдакцыя, пастаноўка, сцэнаграфія, касцюмы і музычнае афармленне п'есы сучаснага шведскага драматурга Э. Сверлінга «Шлюха з Гарлема», паводле якой і быў створаны спектакль. Яго прэм'ера адбылася зусім нядаўна, у кастрычніку мінулага года. У спектаклі заняты вядомыя артысты тэатра Л. Пісарава, Т. Шашкіна, А. Бародзіч, Н. Обухава і інш. Збор ад спектакля пойдзе на выданне кнігі паэзіі Валерыя Маслюка.**

**Юлія ПАЛАЧАНІНА**

ЮБІЛЕЙ

# Вяртанне спадчыны

50 гадоў споўнілася вядомаму рэстаўратару Аляксею Ліпскаму. Аляксей Ліпскі прымаў удзел у рэстаўрацыі фрэскавага жывапісу Мікольскай царквы XVII ст. у Магілёве, Сафійскага сабора ў Полацку, Каложскай царквы XII ст., Брыгіцкага кляштару ў Гродне, царквы Раства ў Слаўгарадзе, двух касцёлаў — Сымона і Алены і «белай» Катэдры ў Мінску. Ён вярнуў да жыцця шмат старажытных абразоў і партрэтаў XVIII ст. з музеяў Брэста, Віцебска, Мінска... Такім «службовым спісам» можа ганарыцца зараз не кожны рэстаўратар.

Аляксей — з вядомага на Беларусі і Польшчы разгалінаванага роду Ліпскіх, радавод якіх прасачыў у сваёй кніжцы Уладзімір Ліпскі. Напэўна гучнае прозвішча абавязвае: 12-гадовым вясковым хлапчуком з маленькіх Суток на Міншчыне Аляксей трапляе ў Мінск у Рэспубліканскую школу-інтэрнат імя І.Ахрэмчыка. Гэта ўстанова дасюль дае шанс таленавітым дзецям з далёкіх беларускіх вёсак знайсці свой шлях у мастацтве. У 60-ыя гады там выкладалі тады маладыя, зараз вядомыя мастакі Л.Шчамялёў і М.Макаранка. Тое, што Ліпскі — вучань Шчамялёва, адчуваецца і дасюль па асаблівай «шчыльнасці» ягонага жывапісу, трывалай кампаноўцы, каларыстычнай зялёна-блакітнай гаме. Пасля заканчэння школы працаваў афармітелем на Трактарным заводзе, потым бліжэй да прыроды — у Лагойскім лясніцтве, пакуль не знайшоў сваё — рэстаўрацыю. На Беларусі, дзе ў тыя гады амаль усе храмы былі зруйнаваныя, рэстаўратары патрабаваліся неадкладна. Але сваёй рэстаўрацыйнай школы не было: трэба было ехаць у Расію, дзе пад кіраўніцтвам вядомага рэстаўратара з Уладзіміра А.Някрасава Аляксей спасцігаў таямніцы прафесіі. Аляксей Ліпскі стаў адным з першых на Беларусі спецыялістаў па манументальным фрэскавым і тэмперным жывапісе.

Пазней Аляксей сумяшчаў працу ў навукова-рэстаўрацыйных майстэрнях Міністэрства культуры і вучобу на аддзяленні жывапісу ў Тэатральна-мастацкім інстытуце. Тут яго настаўнікамі былі Х.Ліўшыц, П.Крахалёў, В.Грамыка. У 1984 г. Ліпскі атрымаў дыплом прафесійнага мастака. Гістарычны пейзаж і партрэт сталі асноўнымі тэмамі яго жывапісных палотнаў. Да вобраза св. Еўфрасінні Полацкай — ягонай дыпломнай працы — ён вяртаўся неаднойчы: адна з карцін, што прысвечана беларускай асветніцы, упрыгожвае зараз епархіяльнае ўпраўленне Беларускай праваслаўнай царквы (створана сумесна з С.Лагуновічам). Дастаткова прывесці назвы карцін, каб зразумець нацыянальна-патрыятычную накіраванасць яго творчасці — «Рагнедзіна гарадзішча» (1976), «Полацкая Сафія» (1976), «Слаўгарадская царква» (1980). У 70—80-ыя гады панавання ідэялагізаванага жывапісу зварот да мінулага Беларусі быў учынкам...





Усё жыццё Аляксей правёў у вандроўках па роднай Беларусі і зараз яго амаль немагчыма застаць у Мінску: цягнуць і родныя мясціны, і новыя «аб'екты». Аляксей Ліпскі, рэстаўратар з амаль 30-гадовым стажам, прызнаны пясняр беларускага краявіду, вельмі сціплы чалавек. Ён рэдка паказвае на выставах свае творы, звыкла распавядае аб сваёй рэстаўрацыйнай працы.

Складальнікі рэстаўратарскага прызвання — зусім іншыя, чым мастакоўскага. Прозвішча рэстаўратара ведаюць толькі ў прафесійных колах. Рэстаўратар — прафесія, якая патрабуе адмысловага ладу жыцця: трэба быць не толькі майстрам, але і чалавекам высокіх маральных якасцяў. Менавіта таму ў 1995 г. Аляксей быў абраны сябрам Беларускай акадэміі выяўленчага мастацтва, дэвіз якой «Талент і мараль». Сяброў гэтай грамадскай групоўкі называюць «акадэмікамі», што паказвае высокі ўзровень прафесійнасці, прызнаны калегамі. Пажадаем далейшых поспехаў у творчасці акадэміку Аляксею Ліпскаму — рэстаўратару і жывапісцу.

**Надзея УСАВА**

*На здымках: рэстаўратар А.Ліпскі; «Еўфрасіння Полацкая».*

НОВАЕ

# БТ-2: з надзеяй і насцярогай

Амаль сенсацыя: ужо з траўня бягучага года ў нас будзе другі тэлеканал Беларускага тэлебачання. Пра гэта днямі заявіў міністр інфармацыі Міхаіл Падгайны. Плануецца, што новы канал не будзе бюджэтным, але так званы "кантрольны пакет акцый" (51%) у ім будзе належаць дзяржаве. Пакуль невядома ні пра канцэпцыю новага СМІ, ні пра дакладны спіс акцыянераў, ні прозвішчы журналістаў, якія далі згоду працаваць на БТ-2. Адзінае, што можна сказаць пэўна: адным расійскім тэлеканалам у Беларусі стане меней, і каманда "новых бэтэшнікаў" проста абавязана апраўдаць аказаны ёй давер. Дадамо, што часу на гэта вельмі мала.

Як бы тое ні было, варта адзначыць, што сам факт "нараджэння" новага беларускага электроннага СМІ, безумоўна, станоўчы. Можна па-рознаму ацэньваць якасць айчыннага прадукта і захапляцца тым жа расійскім тэлебачаннем, аднак нельга не заўважаць, што інфармацыйны, культурны, духоўны ўплыў усходняй суседкі на Беларусь недазваляльна вялікі. І тэлебачанне РФ — тут галоўная зброя. Добра, калі б гэткі ж уплыў быў і з боку другіх нашых суседзяў. Але ж асноўнымі тэлеканаламі на нашай зямлі па-ранейшаму з"яўляюцца ОРТ, РТР, (а ёсць жа яшчэ ці будзе "Культура", ТВ-6, ТВ-цэнтр). Вядома, ёсць яшчэ НТВ, але яно ўжо не "кісялёўскае" і ўсю Беларусь не пакрывае. Таму ўжо ідуць перамовы пра закупку (напэўна праз спісанне тых жа пазыкаў) праграм ОРТ. І вось тут галоўная небяспека. Купяць якую "Большую стирку", "КВН", "Последнего героя", "Смехопанараму" і ўсе...ад Беларускага тэлебачання мала што застанецца.

Вядома, было б няблага, калі б новы тэлеканал адрозніваўся ад свайго папярэдніка інфармацыйнай палітыкай. (Тое, што без палітыкі на новым канале не абыдзецца, сведчыць жаданне ўрада кантраляваць сітуацыю). І тут, дарэчы, РТР можа стаць прыкладам для беларускіх тэлевізійшчыкаў. Падкантрольны дзяржаве канал прадстаўляе гледачам даволі якасныя навіны і аналітыку. Хацелася б спадзявацца, што БТ-2 будзе ў сваёй дзейнасці кіравацца прынцыпамі абвешчанай прэзідэнтам палітычнай ды эканамічнай лібералізацыі. Упэўненыя, такі крок ацанілі б не толькі на Радзіме і ў блізкім замежжы, але і ў Савеце Еўропы, АБСЕ і г.д. Застанецца толькі аздабляць новыя навіны і "Панарамы" цікавымі фільмамі і ...поспех новаму СМІ забяспечаны. Калі ж БТ-2 стане ўсяго толькі клонам БТ-1, то ...

**Вадзім ДОЎНАР**

НАДЗЁННАЕ

***Сёння мы друкуем ліст групы пісьменнікаў, адрасаваны Прэм'ер-міністру і віцэ-прэм'еру Рэспублікі Беларусь. Ліст у абарону Саюза беларускіх пісьменнікаў яшчэ ў мінулым годзе накіравалі асабіста Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь народныя пісьменнікі Іван Шамякін і Іван Навуменка.***

**Прэм'ер-міністру**
**Рэспублікі Беларусь**
**НАВІЦКАМУ Г.В.**
**Віцэ-прэм'еру**
**Рэспублікі Беларусь**
**ДРАЖЫНУ У.Н.**

Шаноўныя спадары!

Статус кіраўнікоў урада суверэннай краіны не толькі дае вам права прымаць рашэнні, абавязковыя для краіны, але і накладае адказнасць перад беларускім народам, перад будучымі яго пакаленнямі. Вы адказваеце і за матэрыяльны дабрабыт грамадзян, і за духоўны стан нацыі.

Прадстаўнікі вышэйшай улады Беларусі пастаянна падкрэсліваюць свой клопат аб стане духоўнасці ў краіне.Але, на жаль, словы не заўсёды супадаюць са справай. Пенсіі і ганарары дзеячаў літаратуры і мастацтва нікчэмныя, матэрыяльная база культуры не атрымлівае дастатковага фінансавання. Творцы духоўных каштоўнасцяў, захавальнікі культурнай спадчыны, якой па праве ганарацца беларусы, падчас паміраюць, так і не дачакаўшыся ад дзяржавы заслужанай дапамогі. Творчыя саюзы страчваюць дзяржаўную падтрымку.

У 1997 годзе валявым актам Саюз беларускіх пісьменнікаў быў пазбаўлены маёмасці, набытай у адпаведнасці з заканадаўствам. Пры савецкай уладзе пісьменнікі рабілі для будаўніцтва Дома літаратара адлічэнні ад ганарараў за створаныя імі кнігі. У будынках, адабраных у нашага творчага саюза, матэрыяльна ўвасобленыя, "арэчаўленыя" творы Максіма Танка, Пімена Панчанкі, Уладзіміра Караткевіча, Васіля Быкава, Івана Шамякіна — і памерлых, і жывых нашых класікаў. Зараз, ва ўмовах, калі фактычна абясцэненая інтэлектуальная ўласнасць і аплата за творчую дзейнасць, маёмасць творчага саюза павінна была стаць гарантам матэрыяльнай падтрымкі творцаў. Статутам СБП было прадугледжана, што ўласнасць саюза не можа быць прыватызаваная і адчужаная.

Але дзяржава адабрала яе ў нас, паабяцаўшы ўзамен, што фінансаванне саюза і яго статутнай дзейнасці будзе ажыццяўляцца з бюджэту.

Аднак дзяржава не стрымала свайго абяцання. З ліпеня 2001 года пералічэнне сродкаў Міністэрствам фінансаў было перапыненае, хаця гаворка ідзе пра мізэрныя сумы — у некалькі разоў меншыя за тыя, якія прыносіць краіне адабраная ў нас уласнасць. Пры гэтым мы назіраем поўную безгаспадарчасць усемагутных службаў. За пяць гадоў, якія прайшлі з тых часоў, калі Івану Ціцянкову ўздумалася прадэманстраваць на нашым прыкладзе свой упраўленчы талент, будынак паліклінікі Літаратурнага фонду стаў абсалютна непрыгодным для выкарыстання і не толькі не рамантаваўся, але і проста не выкарыстоўваўся!

Мы не чакаем ад дзяржавы немагчымага. Пісьменнікі — дзеці свайго народа, якія разумеюць, што сёння цяжка ўсім. Але паводзіны Міністэрства фінансаў, якое дэманструе непавагу не толькі да юрыдычных, але і маральных нормаў, сведчыць: высокія чыноўнікі ўзялі курс на ўдушэнне Саюза беларускіх пісьменнікаў, не задумваючыся над тым, як выглядае наша краіна ў вачах усіх інтэлектуалаў свету. Таму што гаворка ідзе не толькі аб зняважаным гонары эліты, але і аб будучым нацыянальнай літаратуры і, у рэшце рэшт, аб духоўным будучым нацыі.

Мы не хацелі б звяртацца да сусветна вядомых калег па спачуванне і падтрымку. Мы любім сваю краіну, свой народ і імкнемся рабіць усё, каб ім жылося лягчэй.

Мы патрабуем аднаўлення справядлівасці, строгага выканання ўрадам Закона і ўзятых на сябе абавязацельстваў.

Чакаем дзелавога адказу.

**Народныя пісьменнікі Янка Брыль, Рыгор Барадулін.**

**Святлана Алексіевіч, Уладзімір Арлоў, Генадзь Бураўкін, Анатоль Вярцінскі, Сяргей Законнікаў, Васіль Зуёнак, Віктар Казько, Анатоль Кудравец**

МЕРКАВАННЕ

# Крах або аднаўленне?

## СПРОБА РОЗДУМУ ПРА СУЧАСНУЮ ЛІТАРАТУРУ

Было б смешна і глупа адмаўляць тое катастрафічна хуткае падзенне цікавасці да літаратуры і да асобы пісьменніка, якія мы назіраем *апошнім часам*. Кнігарні нагадваюць супермаркеты заможнага Захаду, дзе ёсць усё, а купляюць мала. Тыражы кніг і часопісаў знізіліся настолькі, што ніхто з маладых, бадай, не паверыць у тое, што параўнальна не так даўно кніжкі беларускіх аўтараў маглі выходзіць (прынамсі, дзіцячая і юнацкая літаратура) па 20—30 тысяч экземпляраў кожная, а часопіс «Полымя» штомесячна выпісвалі да дзесятка тысяч чытачоў.

Пісьменнік ужо даўно не ганаровы і жаданы госць на экранах тэлевізараў, у філарманічнай зале, на старонках масавых газет, калі ён, канешне, не ўдзельнік скандалу або палітычнай дыскусіі.

Нават у школе настаўнікі, зважаючы на густы і патрэбы вучняў, больш пачалі гаварыць пра эстрадныя і спартыўныя зоркі, чым пра тых, хто займаецца літаратурай.

Паэтамі і празаікамі сёння сябе лёгка называюць аўтары тэкстаў для чарговай папсовай дрындушкі ці хвацкія малойцы, якія па заказе выдаўца могуць за месяц накляпаць «раман» на 600 старонак, з пагонямі на «Мерседэсах», забойствамі, спрытнымі прыгажунямі і мускулістымі суперменамі.

А яшчэ дзікаватага выгляду састарэлыя хлопчыкі, якія або завываюць у мікрафон незразумелыя слоўныя канструкцыі, або, пардон, *рыгаюць на статуі*, выказваючы гэтым «перформансам» пратэст супраць таталітарызму.

Літаратуру, сцвярджаюць яны, можна есці на кавалках торта, пісаць на аголеным жаночым целе, мармытаць у экзальтацыйным экстазе, а то і проста глыбока прыхаваць у сабе, паказваючы чытачам нерушна чысты аркуш паперы.

На словах сучаснага расійскага філосафа Паўла Кузняцова, літаратура страціла сваю сакральную магічную функцыю і ператварылася ў нейкую аморфную «славеснасць», што паставіла пад пагрозу далейшае існаванне вялікай літаратурнай традыцыі і самога класа «уладальнікаў дум» — літаратараў, якія ствaралі асаблівую магічную рэальнасць духоўнага жыцця нацыі.

Памятаю, у першы год маёй працы ў Саюзе пісьменнікаў па пратэкцыі аднаго з нашых літкансультантаў запрасілі мы з лекцыяй вядома культуролага і філосафа для ўдзельнікаў семінара маладых аўтараў.

Ён з такім захапленнем, бліскучай эрудыцыяй і глабальнымі прыкладамі намаляваў перад маладымі творцамі апакаліпсіс культуры і, у прыватнасці, літаратуры, што агаломшаная аўдыторыя проста здранцвела. І вось у гэтай знямелай цішыні я і запытаўся ў шаноўнага *«мэтра»*, ці не час тады закрыць семінар, бо які ж сэнс юным хлопцам і дзяўчатам, што пішуць вершы і прозу, высільвацца, калі ўсё, чым яны займаюцца, асуджана на хуткую і канчатковую пагібель.

Лектар, відаць, не чакаючы такога *«дурнога» пытання, пачаў апраўдвацца, што ён таксама не хоча* пагібелі літаратуры, але ж такі аб'ектыўны працэс...

Я ўспомніў пра гэты выпадак, калі мы ў чарговы раз на апошняй радзе Саюза пісьменнікаў прымалі ў нашу творчую арганізацыю сем перспектыўных і цікавых аўтараў, якія, нягледзячы на падзенне папулярнасці літаратурнай працы, адсутнасць былых матэрыяльных выгод для сяброў СП «прабіваліся» праз секцыі, прыёмную камісію, хваляваліся перад тайным галасаваннем на радзе... І ўсё — дзеля таго, каб атрымаць запаветны білет, які засведчыць іх прафесійную прыналежнасць?

Неспазнавальныя шляхі твае, Госпадзе!..

Я думаю, ладзіць хаўтуры па літаратуры пакуль яшчэ, мякка кажучы, ранавата. Хоць, безумоўна, сённяшняя сітуацыя выклікала сяродзначнай часткі творцаў вялікую дэпрэсію. Бо хто цяпер літаратар: пралетарый, чые сціплыя інструменты — пяро і папера, ці ўвогуле інтэлектуальны бомж? І які сэнс «вымучваць» творы, калі яны не толькі не ўплываюць на жыццё, але і рэзанансу ніякага ў грамадстве не выклікаюць?

Тым не менш мы пішам, друкуем вершы, апавяданні, эсэ, радзей — аповесці і раманы. Часопісы і любімы мною «ЛіМ», дзякуй Богу, выходзяць, і кніжкі, хоць і зрэдчас, але выдаюцца. *Ды і Саюз пісьменнікаў, як яго ні цкуюць з усіх бакоў, як ні бэсцяць за ўсе ўяўныя ці выдуманыя грахі, жыве, і, думаю, будзе жыць.* Тым часам не зауважаць таго, што адбываецца з мастацкім словам, нельга. Сапраўды, хацелі б мы гэтага ці не, за кароткі час за разваламі былой сістэмы, звыклай і пабудаванай за многія гады жыццёвай мадэлі, адбылося разбурэнне і мадэлі літаратурнай. У Еўропе гэта адбывалася не менш чым два стагоддзі, на былой савецкай прасторы для гэтага спатрэбілася ўсяго дзесяць гадоў.

Што ж уяўляе сабой сённяшняя літаратурная і калялітаратурная сітуацыя? Не прэтэндуючы на ісціну і глыбіню даследавання праблемы, думаю, што ідзе інтэнсіўная пераацэнка каштоўнасцяў — як самой літаратуры, так і асобы творцы. Карыстаючыся спасылкай на модная сёння Барта, літаратары падзяліліся на пісьменнікаў і пішучых. Пісьменнік працягвае выконваць сваю функцыю, ролю ў грамадстве, а пішучы займаецца пэўнага роду дзейнасцю. Але іх аб'ядноўвае адно — слова. Слова, якое павінна захаваць той інтэлектуальны, духоўны запас, які накапіўся за тысячагоддзі існавання літаратуры, і дзякуючы пісьменніку павінна працягваць уплываць на рэальнае жыццё.

Але метады і формы існавання самога літаратурнага жыцця мяняюцца. На нядаўнім семінары перакладчыкаў, які праводзіўся сумесна з рэдакцыяй вядомага і папулярнага раней часопіса «Дружба народов», у адказ на паведамленне, што сёння выданне, якое распаўсюджваецца на ўсе краіны СНД, мае тыраж *усяго 5 тысяч экземпляраў, паэт і выдавец* Адам Глёбус выказаў «крамольную» думку, што сёння вялікая літаратура не патрабуе вялікіх тыражоў, а для сапраўдных прыхільнікаў хапае і малых.

Адкінуўшы палемічную завостранасць падобнай думкі, варта, на мой погляд, пагадзіцца, што ранейшыя тыражы ніколі не вернуцца, а да фармавання выдавецкай палітыкі трэба падыходзіць з іншымі меркамі.

Часопісы і кнігі павінны быццы першую чаргу ў бібліятэках, навуковых і навучальных цэнтрах, варта, каб іх маглі набываць прафесійныя крытыкі і літаратуразнаўцы. Сёння Саюз пісьменнікаў патрэбны яшчэ і для таго, каб разам аб'яднацца ў гэтай рабоце па захаванні і прапагандзе нашых выданняў, кніг, кантролю за тым, каб бязлітасны рынак не выцучыў на галоўную ролю камерцыйныя, пустыя або толькі фармальна-эпатажныя творы. Трэба разам шукаць і змагацца за тое, каб выдатная глыбокая літаратура магла аператыўна, своечасова даходзіць да чытача, каб пра яе гаварылі на ўроках і лекцыях, пісалі ў масавым друку, вяшчалі з тэлеэкранаў і радыёхваляў. Трэба вярнуць прэстыжнасць літаратурнай працы!

Беларуская літаратура, апрача многіх іншых, яшчэ несла і нясе асветніцкую і захавальніцкую функцыю, бо яе знікненне азначала б і *знікненне самога беларускага слова*. Таму, падзяляючы аналагічныя праблемы з рускімі літаратарамі, мы мусім нават больш, чым яны, клапаціцца пра ролю і значэнне пісьменніка ў грамадстве. Трэба зразумець, што не былы ўсемагутны дэпартамент літаратуры, а моцны, аб'яднаны высокай ідэяй захавання духоўнасці, самога Слова, прафесійны саюз неабходны сёння як паветра і пісьменніку, і леваму, і праваму, і цэнтрысту. Хто, як не прафесійны саюз, абароніць гонар, званне, годнасць літаратара, нашу літаратуру ўвогуле?

А яна жыве! Пра гэта сведчаць нядаўнія публікацыі і кнігі Я.Брыля, І.Шамякіна, І.Пташнікава, А.Вярцінскага, Г.Бураўкіна, Р.Барадуліна, Н.Гілевіча, В.Зуёнка, В.Іпатавай, Л.Дранько-Майсюка, А.Пісьмянкова, А.Федарэнкі, Ю.Станкевіча, Л.Галубовіча, А.Пашкевіча, А.Каско, Л.Рублеўскай, В.Шніпа, І.Дарафейчук, С.Рублеўскага, М.Прохар, Я.Лайкова, Л.Маракова... Безумоўна, далёка не поўны пералік, ды і ён сведчыць, што ёсць чым ганарыцца і сёння, што высокае служэнне літаратуры працягваецца.

І ў той жа час мы з трывогай канстатуем, што падае падпіска на тыя ж «Крыніцу» і «Маладосць», што кнігі аўтараў, якія гадамі стаялі ў чарзе на выданне, пыляцца на паліцах кнігарань. Тут варта разам пашукаць выйсця, бо сёння гэта клопат не толькі кіраўнікоў часопісаў і выдавецтваў, гэта клопат кожнага, хто служыць роднай літаратуры.

У глыбінных традыцыях усходнеславянскіх літаратур, у ментальнасці людзей, у прыватнасці, беларусаў, прыхаваны такі здаровы *пачатак, які здольны перамагчы апатыю і дэпрэсію,* здольны не аддаць «тэксты» (слова якое!) толькі на водкуп маргіналам і андэграўнду. Вось толькі б паклапаціцца, каб неяк стымуляваць сапраўдную творчасць, каб паставіць заслону агрэсіўнаму нігілізму, прыстасавансту, халтуры!..

Безумоўна, узрастае роля крытыкі. Яна апошнім часам адыходзіць ад аб'ектыўнай ацэнкі літаратурнага працэсу, не вядзе параўнальнага аналізу, не стымулюе літаратараў, якія заўсёды чакаюць, як іх слова адгукнецца. Крытыка страчвае сваю строгую канцэптуальнасць, баіцца або не хоча падняць планку патрабавальнасці перад творцамі. Пра гэта мы гаварылі ўжо на пасяджэнні секцыі крытыкі, пра стан нашай крытыкі мы хочам разгарнуць сур'ёзную дыскусію на адным з пленумаў Саюза пісьменнікаў. І гэта таксама сведчанне неабходнасці нашай творчай арганізацыі.

Асобна хацелася б сказаць пра школьныя праграмы па літаратуры, пра шматлікія дапаможнікі і ўзаконеныя *шпаргалкі для вучняў і студэнтаў*, якія ў вялікай колькасці «пякуць» асобныя аўтары. Выклікае здзіўленне адвольнасць выбару твораў, імёнаў, што, урэшце, проста дэзарыентуе маладых, не дае поўнага ўяўлення пра сённяшні стан літаратуры. Прычым падручнікі і дапаможнікі цяпер пішуць розныя творчыя калектывы, і ацэнкі раздаюць, адпаведна, па рэгіянальных густах.

А чаго вартыя, да прыкладу, узаконеныя «шпаргалкі», дзе абітурыенту проста трэба зазубрыць імёны, назвы твораў, і гатова — глыбокае «веданне» літаратуры. І таму ў руках такіх «заканадаўцаў» з раздзела сучасная літаратура выпалі творцы сапраўды значныя і цікавыя, саступіўшы месца сябрам, хаўруснікам і знаёмым тых, хто складаў падобныя праграмы.

У нас сёння маўчаннем могуць сустрэць сапраўды цікавую з'яву ў літаратуры, асабліва калі аўтар жыве ў так званай перыферыі, а сераднякa ці ўвогуле графамана расхваліць, як жывога класіка.

Таму нярэдка і гучыць: «А што, уласна кажучы, вартага стварылі гэтыя пісьменнікі? Толькі паперу пераводзяць!..»

Праца творцы глыбока індывідуальная. Часам яна падпарадкоўваецца толькі аднаму яму вядомым імпульсам і поклічам. Але тое, што выходзіць з-пад пяра, ужо не належыць толькі яму. І як з цаглінак дом, з асобных твораў, з яркіх індывідуальнасцяў ствараецца храм літаратуры, храм, без якога не абысціся нармальнаму чалавеку, бо інакш ён абрасце першабытнай скурай тупасці, хамства, хіжасці і хцівасці.

Дык крах ці абнаўленне чакае высокую літаратуру, наша прыгожае пісьменства? Не памылюся, што адказ на гэтае пытанне схаваны і ў нас саміх.

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**

ДРУК

# Новы часопіс

18 студзеня ў Доме ветэрана, што на вуліцы Янкі Купалы, праходзіў Фестываль недзяржаўнай прэсы. Беларуская асацыяцыя журналістаў ладзіла такую імпрэзу ўжо другі раз. Зараз у фестывалі бралі ўдзел каля 60 выданняў з усёй Беларусі. Сярод прысутных, акрамя журналістаў, якія прадстаўлялі свае выданні, былі і вядомыя палітыкі. У прыватнасці, Станіслаў Шушкевіч, Алег Трусаў, Вінцук Вячорка. Тыя, хто не знаёмыя з сітуацыяй на беларускім інфармацыйным рынку, хто трапіў сюды выпадкова, мабыць, былі нямала здзіўленыя: такая колькасць непадцэнзурнай прэсы!

На маю думку, «цвікомъ» праграмы была прэзентацыя новага мінскага выдання — часопіса «pARTisan». Самі стваральнікі характарызуюць яго як «часопіс, які прымусіць па-іншаму зірнуць на сучасны беларускі культурны кантэкст». Дазволю сабе працытаваць фрагмент рэкламнай улёткі, укладзенай у часопіс.

«(...) мэта палягае на адкрыцці беларускаму ды замежнаму чытачу таго малазнанага абшару беларускай культуры, які можна акрэсліць паняткам **актуальнае мастацтва** ці **Contemporaty Art**. З малазнанасці гэтага абшару зусім не вынікае ягонае малое значэнне для беларускай культуры. Хутчэй наадварот, для кожнай краіны, якая прэтэндуе называцца «прасунутай» цывілізаванай краінай, менавіта стан **Contemporaty Art** ці **актуальнага мастацтва** з'яўляецца адным з крытэрыяў яе цывілізаванасці і «прасунутасці», бо **Contemporaty Art** — гэта мастацтва высокіх тэхналогій, гэта сфэра, дзе нараджаецца новы інтэлектуальны культурны прадукт...»

Часопіс «Партызан» будзе інфармаваць чытача аб мастацтве, якое даўно сягнула за межы карцін і яе традыцыйных тэхналогій.

«Партызан» — гэта часопіс, які дэкларуе неабходнасць стварэння новай беларускай міталёгіі. У адрозненні ад ідэалёгіі — непазбежнай долі састарэлых нацыяў, металёгія — салодкі прывілей маладых народаў».

Адкрываецца часопіс дыскусіяй па праблематыцы актуальнага беларускага мастацтва. У ёй бяруць удзел Валянцін Акудовіч, Міхал Баразна, Юрась Барысевіч, Артур Клінаў (галоўны рэдактар «Партызана»), Аля Сідарэвіч.

Далей — Вольга Капёнкіна выступае з артыкулам «Беларусь: лёгіка нопасу», Артур Клінаў — з артыкулам «Партызан і Анты-Партызан».

Арт-працэс у Беларусі і арт-працэс у Маскве — тэма інтэрв'ю з расейскім постмадэрністам Дзмітрыем Прыгавым. Зрэшты, у расейцаў той жа самы комплекс непаўнавартасці, тая ж упэўненасць, што сапраўднае мастацтва можна рабіць толькі на Захадзе, лепей — у Нью-Йорку.

«Сталін капут» — інтэрв'ю з Ігарам Цішыным, адным з найбольш яркіх прадстаўнікоў беларускага постмадэрнізму ў жывапісе. Матэрыял праілюстраваны здымкам з праекта Цішына «Лёгкі партызанскі рух» (1997).

Пра культурніцкую акцыю «Information», пра дзейнасць віцебскіх мастакоў не-акадэмічнай арыентацыі распавядае Ларыса Міхневіч.

Героі публікацый «Партызана» — фотамастак Ігар Саўчанка, удзельнікі Міжнароднага фестывалю перформансу «Навінкі», мастак Алесь Пушкін, сябры аб'яднання Бум-Бам-Літ. Грунтоўна асвятляецца гісторыя галерэі «Шостая лінія».

Адзначу, што часопіс выйшаў на беларускай і ангельскай мовах накладам амаль сімвалічным — 298 асобнікаў. Ужо ў дзень прэзентацыі ён стаў бібліяграфічнай каштоўнасцю.

Інфармацыя, сабраная ў «Партызане», не з'яўляецца для адмыслоўцаў нейкай «таямніцаю, што за сямю пячаткамі». Пра гэта ў розны час пісалася ў прэсе — «Наша ніва», «Мастацтва», «ЛіМ». Фактычна першы нумар «Партызана» падводзіць рысу пад значным перыядам у развіцці беларускага мастацтва.

Добра ўжо тое, што і мастакі і тэарэтыкі постмадэрнізму ў нашай краіне бачаць у ім не сродак эпатажу публікі, а інструмент вывучэння чалавека на зломе часоў, на змене эпох. Цудоўнае паліграфічнае выкананне, дынамічная вёрстка, палемічны змест абяцаюць «Партызану» добрую будучыню. Па першым нумары зразумела, што ў часопіса ёсць чытач.

Рэдакцыя ўдзячная спонсарам, у прыватнасці Усходнееўрапейскаму Дэмакратычнаму Цэнтру IDEE.

Само разуменне «Партызан» адпавядае беларускай ментальнасці, беларускаму бачанню рэчаіснасці. Партызан — не рэкрут і не найміт. Партызан — валанцёр, вольны стралец накшталт Робін Гуда, індывідуаліст па характары — сябра грамады па неабходнасці. Партызаны не носяць уніформы і не ходзяць строем. Таксама як і мастакі...

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

*З якіх лясоў ты, вецер, заляцеў,*
*На плошчы гэтай*
*скончыўшы вандроўку?*
*Маёй зямлі астатні моўны спеў*
*Вязуць з сяла дзяды на Камароўку...*
*Я не хачу пачуць бязмоўе дня,*
*Якія б не ўзвіліся землятрусы.*
*Шчыльней у гурт, духоўная радня,*
*Да Коласа бліжэй, мы — беларусы.*

М.Мятліцкі ўмее зачапіць чытача за жывое, зацікавіць яго. П.Панчанка некалі сказаў: «Паэзія — споведзь веку, прапушчаная праз уласнае сэрца». Думаецца, што паэзія Мятліцкага не пярэчыць гэтаму вызначэнню.

Трэці ўдзельнік зборніка А.Пісьмянкоў — з Магілёўшчыны. У яго вершах шмат магілёўскага «антуражу». «Вачэй радзіміцкіх азерцы», — так бачыць ён сваіх землякоў. Ён майстар эстэтычна прывабнага і ёмістага паэтычнага вобраза. Вобразную назву «Рабіна над вірам» даў зборніку аднайменны верш Пісьмянкова: вобраз рабіны над вірам, не цяжка здагадацца, сімвалізуе Беларусь.

Лірыка гэтага паэта разнастайная ў жанравых адносінах: пейзаж, аўтабіяграфія, нататка, ліст, інтымнае. У А.Пісьмянкова — свой шарм: ён піша пра тое, што любіць, што падабаецца, з чым заадно. У яго багатая памяць і цудоўнае майстэрства.

*Ты адбі мне тэлеграму,*
*Што і ў нашай старане*
*Ў ціхай вёсцы Белы Камень*
*Выпаў белы-белы снег.*
*Вёсак многа. Ёсць другія.*
*Ў вёсках нашы карані.*
*У мяне не настальгія —*
*Проста сум па чысціні.*
*Проста сум па белым полі,*
*Па рабінавым агні...*

«Ты адбі мне тэлеграму...»

Радок у яго — размоўны, гаваркі, вобразна-пластычны. «Зашыпяць камяні чарадой гусакоў» — гэта пра вясковую лазню.

А вось верш «Ноч»:

*Упарты локан,*
*І белы локаць,*
*І шэпт нясмелы,*
*І вуснаў спеласць,*
*І вока поўні,*
*І зорак поўна.*

А.Пісьмянкоў камфортна адчувае сябе ў мове, умее расставіць словы так і так іх агучыць, што яны як бы перамаўляюцца паміж сабой, набіраюцца новага сэнсу, рухаюцца і верш успрымаецца як нешта цэласнае, арганічнае, жывое і радаснае. Ён упарта настойвае на той думцы, што яго вершы не надта ад яго самога залежаць, што яны як бы самі па сабе нараджаюцца ў свядомасці і гатовымі нараджаюцца на свет. І я гэтаму ахвотна веру. А як не верыць? І

*Не багата па ліку*
*Ад продкаў рэліквій:*

*Сявенька для жыта,*
*Меч старажытны.*

*Шолам з Нямігі,*
*Скарынава кніга.*

*Ад каня Кастусёва*
*На шчасце падкова.*

«Мае рэліквіі»

Змест — глыбокі, а форма па-сапраўднаму паэтычная, лёгкая, ненатужлівая, якая дапамагае паэту ацэньваць свет паводле ідэалаў хараства, дабра і справядлівасці. Усё гэта між іншым дае падставу лічыць, што ў яго паэзіі выразна выяўлены багдановічаўскі пачатак, звязаны з такім паняццем, як арфічнасць, якая арыентуецца выключна на эстэтычныя якасці Слова ў іх найбольш поўным і паслядоўным праяўленні. Пры гэтым арфічнасць у Пісьмянкова не адхіляе сувязі з маральнасцю і ідэйнасцю. Думка — асабістая, эмацыянальная — заўсёды прысутнічае. Зрэшты, як і ў Законнікава і Мятліцкага, якія гэтаксама імкнуцца бліжэй да неба, да вечнага, да анталагічных асноў быцця, да прыроды і далей ад засілля тэхнікі і абесчалавечанай бюракратычнай сістэмы.

Тэма «чалавек і прырода» гучыць у творчасці ўсіх трох, але вельмі разнастайна. Кожны па-свойму праводзіць думку аб іх збліжэнні і ўзаемазалежнасці, аднак у адпаведнасці з сваім светаўспрыманнем, індывідуальнасцю. Некаторыя вершы С.Законнікава нагадваюць пра тое, што стаўшы істотай духоўнай, чалавек у чымсьці застаецца і жывёлай, і раслінаю, і каменем.

*Я — лістапад. Прыходзьце да мяне*
*Па той сцяжыне, дзе*
*вятры блукаюць.*
*Прыходзьце. Шчасце тых не абміне,*
*Хто тут мяне,*
*у лесе,*
*адшукае.*

«Прыходзьце да мяне» — так называецца гэты вершы — спроба асэнсавання прыроды, яе ачалавечвання. Асноўным зместам выступае тут паэтычнае пачуццё, радасць яднання з прыродай, адкрыццё глыбіннага сэнсу хараства.

Паэзія М.Мятліцкага перадае драматызм суіснавання тэхнікі, прыроды і чалавека:

*Рэактыўны выбухне ў вышы,*
*Страпянецца ў перапудзе жыта...*

У многіх вершах Мятліцкага чалавек убачаны паэтам на ўзмежжы эмпірычнага, рэчыўнага свету яго штодзённага існавання і, з другога боку, зорнага свету, абумоўленага «звышзямнымі» прыцягненнямі, якія ідуць з далёкіх прастораў сусвету. Для Мятліцкага дастаць з неба зорку не ўяўляе вялікай складанасці — у супрацьлегласць, скажам, Пісьмянкову, які прызнаецца: «Я хацеў дастаць з неба зорку// І апёк сабе руку». А.Пісьмянкоў — на зямлі, і філасофія яго — зямная:

*Меднастволы сасоннік,*
*Белакоры бярэзнік,*
*Я ваш вечны палоннік*
*І нявечны равеснік.*

Паэт дорыць чытачу пачуццё роднасці з прыродай. Прыгажосць прыроды ўтаймоўвае трывогу, супакойвае сэрца, вяртае адчуванне жыцця як цэлага.

Некалі, у сярэдзіне 20-х гадоў, П.Броўка пісаў: «Мне трэба, каб слова падносіла цэглу, а вершы ў альбом і хто іншы напіша». Ён хацеў, каб яго паэтычнае мастацтва непасрэдна будавала і тварыла жыццё, каб гэтага патрабавала тагачасная ідэалагічная ўстаноўка. Сучасная паэзія — іншая, яна, усвядомлена ці неўсвядомлена, ставіць перад сабой больш складаныя задачы духоўнага, светапогляднага характару, яна не можа прымірыцца з тым, кажучы словамі У.Б.Йетса, «што не нясе ў сабе радасці». З гэтага пункту гледжання хацелася б, у некаторым сэнсе, удакладніць і думку Одэна, з выказвання якога мы пачалі. Літаратурны крытык усё ж такі павінен мець на ўвазе не толькі патанні мясцовага характару, але і нешта большае. Гаворка ідзе пра агульныя асновы быцця, якія тояцца ў будове сусвету, духоўнай і біялагічнай прыродзе чалавека, яго экзістэнцыі, у змене буйных грамадскіх фармацый, значнасці накопленага вопыту.

Пра гэта нагадвае і зборнік «Рабіна над вірам». Не сакрэт, што многія літаратары хацелі б трапіць у школьныя падручнікі і праграмы, у кніжкі ШБ, але ці кожны можа вытрымаць гэткае выпрабаванне? Практыка паказвае, што далёка не кожны, і прыемна адзначыць, што С.Законнікаў, М.Мятліцкі і А.Пісьмянкоў гэтую вышыню адолелі.

Добрую, вельмі эмацыянальную прадмову напісаў Алесь Марціновіч.

Болей бы такіх кніг для школы.

**Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ**

# «Бацькоўскае поле» Міхася Карпенкі

Міхась Фядотавіч Карпенка — паэт, які жыве ў вёсцы Чарняўка Хоцімскага раёна. Тут ён у 1930 годзе і нарадзіўся. Закончыўшы сямігодку, паступіў у Гродзенскае культасветвучылішча. Працаваў у газетах «Магілёўская праўда», «Піянер Беларусі». Першыя вершы надрукаваў у «Гродзенскай праўдзе» пры падтрымцы Міхася Васілька, настаўніка многіх гродзенскіх літаратараў.

Пачынаў М.Карпенка пісаць па-беларуску. Друкаваўся і ў «Полымі». Прыязна адгукаўся пра вершы маладога журналіста народны паэт Беларусі Максім Танк. У 1964 годзе М.Карпенка закончыў Вышэйшую камсамольскую школу пры ЦК ВЛКСМ. Па размеркаванні трапіў у Туркменію. Рэдагаваў газету у Краснаводску. З 1971 года — галоўны рэдактар абласной газеты «Ташаузская правда». Грамадская, культурна-асветніцкая праца М. Карпенкі была адзначана ганаровым званнем заслужанага работніка культуры Туркменскай ССР.

Журналісцкую, рэдактарскую працу наш зямляк спалучаў з літаратурнай, паэтычнай творчасцю. У Ашхабадзе і Нукусе (сталіца Каракалпакскай АССР ва Узбекістане, памежнай з туркменскай Ташаузскай вобласцю) пабачыла свет больш як дзесяць яго вершаваных кніг. Што яшчэ вызначала туркменскі час жыцця колішняга хоцімскага падлетка?.. Міхась Фядотавіч быў надзвычай уважлівы да землякоў. Васіль Слушнік (галоўны рэдактар «Туркменской искры»), Мікола Калінковіч (супрацоўнік КДБ Туркменістана, пісьменнік, краязнаўца), Васіль Ткачоў (ваенны журналіст, пісьменнік), Уладзімір Грачоў (радыёжурналіст, ураджэнец Ваўкавыска) — яны і шмат хто яшчэ заўсёды адчувалі сяброўскую падтрымку з боку старэйшага калегі.

З 1991 года М.Карпенка — пенсіянер. Прыехаў у Беларусь. Набыў у роднай Чарняўцы хаціну. Уладкоўвае новы этап свайго беларускага жыцця. Зрэдку выступае ў перыядычным друку, не цураецца сяброўства з мясцовай раённай газетай.

І вось выдавецтва «Беллітфонд» выдала і кнігу Міхася Карпенкі «Отцовское поле», асновай якой з'яўляецца паэма, што і дала назву зборніку.

Няхітры, просты вершаваны радок М.Карпенкі прываблівае адчуваннем жыцця ва ўсіх яго праявах, лаканічнай праўдзівасцю, гранічнай шчырасцю.

Каб кніга пабачыла свет, паспрыяў вучоны і выдавец Міхаіл Грышчанка (дарэчы, зямляк М.Карпенкі).

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

Рознае надаралася падчас палявання. Забываўся пра мэту знаходжання ў лесе, бо жыў вершамі: «Было й такое, мушу вам прызнацца,// Калі на паляванні з двух ствалоў// Дуплецім так бясслаўна я па зайцу,// Што доўга потым сорамна было». Сорамна, канечне, ад паляўнічай няўдачы, а ў іншым сябры маглі пазайздросціць:

*Да вогнішча вяртаўся я не з першых,*
*Але аддана слухалі сябры*
*Мае яшчэ зусім сырыя вершы*
*Амаль да яснай ранішняй зары.*

А што перажываў ён тады, калі чуйна ўслухоўваўся ў прыроду, бачна і па вершы «Слухаю цішыню». Няхай твор напісаны і з іншай нагоды, але ад гэтага сутнасць не мяняецца. У кожным радку адчуваецца, наколькі Х. Гурыновіч чалавек назіральны, як умее ў паўсядзённасці знаходзіць вартае пільнага позірку, як само наваколле здатна адкрывацца для яго сваёй нерушавасцю, якая прысутнічае літаральна ва ўсім і яе трэба толькі ўмець заўважаць, а яшчэ належным чынам перадаць, каб гэта ўразіла і ўсхвалявала кожнага, хто пазнаёміцца з вершам:

*Каб не палохаць ломкай цішыні,*
*Я падышоў на дыбачках да плёса*
*І ўбачыў у вячэрняй глыбіні,*
*Як восень перамешвае нябёсы.*

*Яны плылі, клубіліся ў вірах,*
*Як быццам дым, што то мужнеў,*
*то чах,*
*Прыдушаны вадою на пажары.*
*Крыху пазней алмазныя Стажары*

*З іх выбліснулі,*
*Ўздрыгнула рака —*
*Шчупак нябёсы разарваў, як нерат.*
*І залаты чаўнок маладзіка*
*Разбіўся ўшчэнт аб камяністы бераг,*

*І зазвінеў таемна, як крышталь,*
*І разбудзіў адлётных*
*сонных птушак.*
*І слухаў бераг бляск*
*драбнюткіх хваль*
*Вушамі перламутравых ракушак.*

Малюнак вельмі вобразна насычаны, памастацку пераканаўчы. У творы прысутнічае тая пластыка, якую звычайна адчуваеш на рэалістычна-праўдзівых жывапісных палотнах. Усё быццам бачыш наяву, сам прысутнічаеш там, дзе знаходзіцца ўсё гэтае хараство. І падобных вершаў у кнізе шмат. Каторы ні прачытаеш, застаецца эстэтычная асалода. І радасць за тое, што Х. Гурыновіч умее так хораша пісаць. Пры гэтым перадае розны настрой: ад радасна-светлага да элегічна-засяроджанага:

*У глухую ветраную ноч*
*Зззе на вандроўніцкіх арбітах*
*Вогнішча, як паляўнічы нож,*
*Віртуозна ў цень гарачы ўбіты.*

*Слухаю паднебныя вякі,*
*Дзе ў мярэжы ўблыталіся гусі,*
*Гэта з іх падкрылкаў шапаткіх*
*Дождж у наша вогнішча цярусіць.*

Але ж прырода неаддзельна ад чалавека, як і чалавек ад прыроды. У гэтым адзінстве — таксама праяўленне сутнасці жыцця. Таму і Х. Гурыновіч не абмяжоўваецца напісаннем толькі лірычных вершаў, у якіх ажываюць родныя краявіды, передаецца настрой таго, хто лучны з імі. Увайшлі ў новую кнігу і творы, што тэматычна звязаны з далёка няпростымі рэаліямі паўсядзённасці. У асобных з іх раскрываюцца лёсы тых, каго аўтар ведае ці ведаў. З гэтага шэрагу і верш «Вінка». Нямала напісана пра адзінокіх людзей, у тым ліку і беларускімі паэтамі, але Х. Гурыновічу ўдалося не паўтарыцца. А таму і атрымалася вобраз простай вясковай жанчыны праўдзівым:

*Хто б яе бабулькай клікнуў:*
*— Вінка, Вінка! — быццам здзек.*
*Пражыла свой век бабылкай,*
*Звекавала Вінкай век.*

*Безнасенная расліна,*
*Дзе яе згубіўся род?..*
*Цётка Вінка, цётка Віна...*
*Вінцы — восемдзесят год.*

А колькі душэўнай спагады ў вершы «Пенсіянеркі»! І якой тугой прасякнуты верш «На кладах», у якім як бы паўстаюць воблікі тых, хто заўчасна пайшоў з жыцця: «Гэта што ж з юнакамі?// Жыць бы хлопцам ды жыць...// І разводзяць рукамі// На магілах крыжы»! Гэтыя і іншыя творы проста не маглі не напісацца. У Х. Гурыновіча існуе душэўная патрэба далучацца да людскіх лёсаў. Невыпадкова ён у вершы «Сумую па чалавеку» прызнаецца: «Я сумую ўсё жыццё// Па харошым чалавеку». А сум гэты з-за таго, што паняцці дабра, маральнасці для Х. Гурыновіча — не дэкларацыйныя. Ён не з тых паэтаў, якія ў творах гавораць адно, а ў жыцці прытрымліваюцца зусім іншых прынцыпаў і часта кіруюцца іншымі крытэрыямі.

Гэта нельга не вітаць. Сапраўдная паэзія — пры нязменным таленце як першаснове яшчэ і грамадзянскі ўчынак. А ўчынак грамадзянскі таксама мае свае, калі можна так сказаць, вытокі. Ён пачынаецца з чыста чалавечых якасцяў, якія і спрыяюць лепшаму грамадзянскаму самавыяўленню чалавека. У Х. Гурыновіча слова не разыходзіцца з учынкам, таму і яго паэзія — таксама ўчынак.

Пра кнігу «Запрашаю пад дождж» можна гаварыць шмат. І словы гэтыя будуць толькі ўхвальнымі, бо вельмі шмат у ёй твораў цікавых, адметных. Канечне, часам аўтар дае сабе як бы некаторую палёгку, ды не гэта істотна. Галоўнае — жыве ў Салігорску самабытны паэт Хведар Гурыновіч. А што крытыка яго пакуль належным чынам не ацаніла — не бяда. Куды больш значыць прызнанне чытачоў, а іх пабольшае, калі ў час пазакласнага чытання выкладчыкі беларускай мовы і літаратуры пазнаёмяць з творчасцю Х. Гурыновіча. Найперш праз кнігу «Запрашаю пад дождж», у якой ёсць і такі верш:

*Я запрашаю вас пад дождж,*
*Пад дождж і сонечныя промні.*
*Ёсць у мяне білеты з бронню.*
*Вы не ў гуморы сёння? Усё ж*
*Я запрашаю вас пад дождж.*

*Я запрашаю вас пад дождж,*
*Дзе, як Кіжы, плывуць па плошчы*
*Дамы, і дожджык іх палошча —*
*Свавольны — ўпоперак і ўдоўж.*
*Я запрашаю вас пад дождж.*

Як не прыслухацца да гэтага запрашэння, што вядзе ў сапраўдную паэзію!

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# "Роднае слова", № 12

Галоўны рэдактар "РС" М. Шавыркін выступае з публіцыстычным роздумам "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай..." В. Івашын ("Максім Багдановіч — паэт высокай мастацкай культуры") асэнсоўвае духоўны свет лірычнага героя класіка нацыянальнай літаратуры ў суадносінах з прыродай і грамадствам. Змешчаны заканчэнне артыкула В. Максімовіча «Палоннік мастацкай праўды» (М. Зарэцкі — навеліст), артыкулы Д. Бугаёва "Яшчэ раз пра Міколу Лобана", Г. Тычкі "Крывавае жніво" (з гісторыі Купалавага перакладу драмы Е. Жулаўскага "Эрас і Псіха"), Т. Гуліцкай "Хто такі Хрыстоф Філалет?" (да праблемы аўтарства "Апокрысіса"), Н. Лобань "Лёсу кірунак, долі выснова" (уласнае імя ў мастацкім тэксце), А. Хадановіча "Праўда і справядлівасць" (пра вершы Ч. Мілаша), В. Брылон "Вяртанне музыканта (да 95-годдзя М. Клаўса), Ф. Ваданосавай "Невычэрпная моц жыцця" (да 110-годдзя з дня нараджэння У. Луцэвіч), Л. Маракова "Алесь Дудар". Штрыхі да творчага партрэта М. Маляўкі з нагоды яго 60-годдзя напісала А. Статкевіч ("Захоўвайце ў душы святло..."). Ёсць магчымасць пазнаёміцца з шэрагам матэрыялаў, пачатак якіх змешчаны ў іншых нумарах: "Рамантызм у кантэксце гісторыі сусветнай літаратуры" Э. Садаўнічага "Ля вытокаў жанру балады ў беларускай літаратуры" Алены Яскевіч, "Максім Танк" В. Рагойшы, "Гісторыя хрысціянскай культуры" Т. Шамякінай. Да 60-годдзя В. Ліцьвінкі прапануюцца артыкулы "Будзе ў нашай хаце лад, калі нараджаюцца такія фалькларысты" А. Лозкі і "Збіральнік скарбаў народных" М. Кенькі. Сам В. Ліцьвінка выступае з артыкулам "Фальклор як аснова традыцыйнага жыцця і мастацкай культуры беларускага народа".



## ЧАСАПІС

### «Інквізіцыя»

Чарговая кніга паэзіі Віктара Шніпа «Інквізіцыя» пабачыла свет у «Бібліятэчцы часопіса «Куфэрак Віленшчыны», што выходзіць у горадзе Маладзечне. Адразу хочацца сказаць ухвальнае слова Міхасю Казлоўскаму, які, як вядома, з'яўляецца заснавальнікам і выдаўцом «КВ». І парадавацца, што таленавітыя вершы В.Шніпа знайшлі дарогу да чытацкіх сэрцаў, а што гэтая яго кніжка, як і папярэднія, будзе сустрэта з цікавасцю, сумнявацца не даводзіцца. В.Шніп апошнім часам піша вельмі цікава, знаходзячы свой падыход у адлюстраванні як падзей сённяшніх, так і даўніх. А тая самотлівасць, тужлівасць, што прысутнічае ў яго творах, гатовая перарасці ў адчай, з'явілася не на пустым месцы. Такая наша рэчаіснасць, што далёка не заўсёды ёсць падставы радавацца, а чаканы прамень святла ў канцы тунеля нярэдка ледзь прыкметны, а гэта выклікае пачуцці на мяжы адчаю. Дый паэт перакананы, што інакш ставіцца да ўсяго і нельга:



*Самотных вершаў не пісаць,*
*Нібыта праўды не казаць,*
*А танцаваць на рэштках Храма,*
*Куды мяне вадзіла мама*
*Да споведзі, як да святла,*
*І споведзь, нібы верш была...*

*Самотных вершаў не пісаць,*
*Нібыта ад сябе ўцякаць,*
*Нібыта пальцы адсякаць,*
*Не думаць, што ўсё гэта грэх,*
*Які не знікне, нібы снег...*

*Самотных вершаў не пісаць,*
*Нібы Іуду цалаваць...*

Аднак самота можа быць рознага кшталту. Тая, што з'яўляецца сведчаннем мімалётнасці настрою. Яна хоць і мае пад сабой трывалую аснову, з цягам праходзіць. Аднак надараецца і так, што не губляецца, а ўзмацняецца і гэта ўжо выклікае цэлы шэраг асацыяцый, за якімі — не проста туга, а, можна сказаць, і беззыходнасць становішча. В.Шніп аднолькава паспяхова закранае абодва гэтыя аспекты. Тым не менш, як мне здаецца, гэтым разам яму ўдаліся больш вершы баладнага складу. Сам жанр вымагае адпаведнай настраёвасці і ён жа дазваляе сказаць шмат. Уражваюць «Балада вяртання», «Балада апошняга князя», «Балада волі». «Балада вяртанння» — сяганне туды, дзе зямля яшчэ цёплая ад крокаў маленства, а ўспаміны вымалёўваюць у памяці вельмі запамінальныя вобразы. Але для згадак ёсць і іншая падстава:

*Я сягоння ў дзяцінства*
*вярнуцца жадаю,*
*Не таму, што там добра,*
*малому, было,*
*А таму, што па сцежках*
*бацькоўскага краю*
*З хаты ў хату цякло*
*Беларусі святло,*
*Ад якога свяцлелі самотныя хаты*
*І хацелася быць, і хацелася жыць,*
*І спявалі ля рэчкі пра Яся дзяўчаты,*
*І пускалі вянкі, і хацелася плыць*
***За вянкамі ў нязведаны***
*свет за лясамі,*
***Не таму**, што там добра,*
*напэўна, было,*
***А таму**, што дабрэйшымі*
*мы былі самі*
*І па сцежках цякло Беларусі святло,*
*Ад якога свяцлелі самотныя хаты...*

Святло Беларусі — гэта тое, чым напоўнены шмат якія творы паэта. Яно прысутнічае апасродкава нават у вершы «***Вялікая, самотная Расія...». Правільней не само святло, а спадзеў на тое, што яно не павінна ніколі згаснуць: «Вялікая, самотная Расія,// Вялікай будзь, як боскія дамы,// Не з-за таго, што знікнем мы, «малыя»,// А з-за таго, што будзем мы!»

Гэтая ўлюбёнасць у Беларусь і надае самым самотлівым вершам В.Шніпа аптымістычнае гучанне.

**Алег ГУЛІЦКІ**

ПАЭЗІЯ

Мікола АРОЧКА



# Мроіцца вызвольны ідэал

## Каронная балада Вітаўта

*Адчуўшы блізкі скон, вялікі Вітаўт*
*Сабраў да ложа ўдатных ваяроў,*
*З рассечанай кароны выцер кроў,*
*Змачыў яе гаючай аквітай.*

*Перахапіць хіба маглі магнаты?*
*Асвечаную Рымам — ды на злом?!*
*Яна ўцякла параненай ад здрады*
*На нашае дзяржаўнае чало.*

*На раны яе Вітаўт самавіта*
*Усклаў далоні — з пошаптам бароў,*
*З расстайным рыкам збуджаных*
*зуброў —*
*І ажыла карона з мараў літая!*

*Цяпер з чала не дайце яе зрынуць,*
*Зноў мечам ці маной распалавініць,*
*Пасеч зямлю, нябёс блакітны дах.*

*Зямля сябе ўзгадуе ўласным коштам,*
*Хоць шлях Айчыны будзе і не простым,*
*Ды ў бок свабоды выкіруе Шлях!*
2001г.

## Вяртанне ў поўню

*Хацеў сабе зрабіць прыемнасць:*
*Пацвердзіць свой трыццаты год,*
*Сысці ў мазольны свет турбот —*
*Да вілаў, кос у пад'ярэмнасць.*

*Але спазнаў я ўсю дарэмнасць,*
*Бо попел вогненных нягод*
*Даўно пусціў мяне ў расход.*
*Ды засталася з краем крэўнасць!*

*Пакуль у свет твой павяртаю,*
*Акраса краю — я ўтрываю!*
*Пад абразамі на куце,*

*У вечнай поўні роднай мовы,*
*Не згіне поўня — вунь расце*
*З яе ўжо рог маладзіковы!*
1990г.

## У дзень волі

*Ад нас хавалі доўга гэту дату —*
*Яе над ямай крывяніў свінец,*
*Яе тапталі ў бруд, ламалі кратай,*
*Душылі дротам, мерзлатою клятай,*
*Смех супастатаў цешыўся: канец!*

*Не дата прамаўляе — вусны, вочы*
*Суродзічаў няздрадных, тых асоб,*
*Сапраўдных вояў, розумаў прарочых,*
*Што ўласным целам з цемры патарочай*
*Масцілі Шлях наш...*
*Колькі мужных спроб!*

*Таму і спешка з нашаю канчынай,*
*Каб распладзіць бяспамяцтва рабоў.*
*Ды за плячыма ў даты той — Айчына,*
*У курганах сівых, у збройных чынах,*
*Дзе паласой — па белым — наша кроў.*
25.3.1998г.

## Сучасны Таўлай

*Час не падводзіць рысу пад Таўлаем.*
*Глянь — крывянее зноў Твая вярста...*
*Зямляча, ты не знік за небакраем*
*У трыццаць тры свае — гады Хрыста.*

*На краты кінуў ты сябе падлеткам:*
*Як мроіўся вызвольны ідэал!*
*Ды сёння на двары — якое лета?*
*Які па ліку хіжасці аскал?*

*Зноў у працягу — той жа боль і здрада.*
*Ад іх пытання мулка і ў труне:*
*"Ці першага вы судзіце за праўду,*
*Ці першага вы судзіце мяне?"*

*З магілы чуеш: у дзікунным крыку*
*Зноў закружылі хіжа крумкачы.*
*Дачка, крывінка родная, Галінка*
*З зямлі бацькоўскай*
*змушана ўцячы.*

*Аплачваў ты жыццём абавязковасць*
*Сваіх пакут змагарных і радка.*
*У сэрцы Мінска — чуеш ты*
*з Вайсковых? —*
*Як рве запруды людскасці рака?*

*Крыві ахвярнай, пэўна, ужо хапіла б*
*Для ўсіх чырвона-ўплямленых сцягоў,*
*З катоўнямі, з тым звонам ланцугоў,*
*Што косяць і наноў гартуюць сілы.*
1998г.

## Падземны маналог рэабілітаванага

*Ці шмат мне ўцехі —*
*Ад рэабілітацыі?*
*Вяртанне ў справядлівасць ці ў падман?*
*Лепш не чапайце сплямленымі пальцамі*
*Маіх свінцовых ран.*

*Ці ваш свінец і жах той катавальны*
*Былі, маўляў, патрэбны, як чысцец?*
*Свінец жа — свой, не той недаравальны,*
*Што, скажам, Гітлер нёс — чужы свінец!*

*Хацелі б вы падлыжніцтвам няшчырым*
*На косткі сыпнуць мне*
*пялёсткі руж,*
*Каб з гэтых костак, выбеленых жвірам,*
*Здабыць бялёсы колер сваіх душ?*

*Вам знешняя пабелка, імітацыя*
*Патрэбны, каб лягчэй было віне.*
*Патрэбна болей вам*
*Рэабілітацыя,*
*Яе сабе ўчыняеце, не мне.*

*Ці карнаму гнязду функцыянераў*
*Абходзіць маё добрае імя?*
*Сваё імя вам трэба*
*ўзняць даверам,*
*Паколькі вам даверу ўжо няма.*

*Вы лад свой безнадзейна зганьбаваны*
*Прыкрыць хацелі б латкаю двайной.*
*Для выгляду ківок — у бок тырана,*
*Ды на народ свой зноў пайшлі вайной.*

*З "нацдэма" ў вас я стаў*
*бы "экстрэмістам".*
*Занесена рыдлёўка на мяне,*
*І з тым жа ярлыком*
*Нацыяналіста*
*Хацелі б мяне бачыць на ражне.*

*Вам іншае карціць —*
*не вольнасць нацыі,*
*А памнажэнне горкіх нашых страт —*
*Дадаць яшчэ звяно трагічных дат:*
*Спачатку кроў ахвяр, затым —*
*Рэабілітацыя.*
25.6.1989г.

## Дыханне далёкіх снягоў

*На сконе мароз — не мароз,*
*Струменіць цяпло ад бяроз,*
*У сосен духмяна слязіцца*
*З расколін кары жывіца.*

*Адпрэчваюць снег камлі.*
*Прадвесневы шум —*
*па галлі.*
*І грай ушчыняюць вароны,*
*І рунню шамраць загоны. —*
*Ай-ай, які ж небакрай,*
*Святлісты і пазлацоны!*
*І фарбы ў трымценні паўтонаў.*

*З нябёсаў, нібы з пеляны,*
*На лог папаўзлі туманы,*
*З'ядуць на світанку снег.*
*Скідаюць здранцвеласць сады.*

*І там, дзе праходзіў лямех,*
*Чыесьці дымяцца сляды...*

*Ды сівер падзьме скразны*
*І кведзень сатне садоў.*
*Астудзіцца промень вясны*
*Дыханнем далёкіх снягоў.*
1996г.

## А бяда не адстала...

*А бяда не адстала ад нас ні на крок,*
*Падганяе сляпых да абрывістай стромы.*
*За спіною бы вусцішна*
*шчоўкнуў курок...*
*АЛе ў свеце мой крык*
*не патрэбны нікому!*

*Хай не гуртам глытае нас брацкі дол.*
*Па адным ці па пары —*
*адстрэл эліты.*
*Недзе ў лесе курыцца над ямінай ствол,*
*ЦІ тапелец усплыў,*
*папярэдне забіты...*

*Супраціў хіжа ўтопяць у лыжцы вады*
*Ці ў гасцінна паднесенай*
*шклянцы атруты.*
*Нам расстаўлены тысячы пастак бяды.*
*Крык пакуты не будзе нікім пачуты!*

*Я пасу вось кароў ці абкошваю роў,*
*Ці з унукам шукаю*
*сунічак, ажынаў...*
*Што мне вынюхі ўслед!*
*Я ўжо страціў сыноў,*
*Іх знайду, дапаўзу з-пад*
*зубчастых шынаў...*

*Але вы, да каго мы ўзносім свой крык,*
*Калі стогн наш вымольвае*
*зноў паратунку,*
*Вы ж таксама з іх кіпцяў свой*
*возьмеце крыж,*
*Як і мы, яшчэ ўзвыеце слепа*
*ў іх шлунку.*
2001г.

## Апошняе жаданне

*На твар — далоні...*
*Сцішна, як на споведзі.*
*Пад покрывам начы,*
*У немаце літання*
*Штось увайшло ў мяне... О, Госпадзі,*
*Пачуй маё апошняе жаданне:*

*Сыдзе мой дух да зор,*
*А цела — ў дол,*
*Ды буду я і ў пекле апантана,*
*У смолле ткнуўшыся,*
*бы ў мацерын падол,*
*Узносіць да Ўсявышняга пытанне:*

*Скажы, Ўладыка мой: на свеце тым*
*Ці ўчую я, ці косткамі ўздрыгнуся,*
*Калі мой люд, пакутны і святы,*
*Здабудзе вольнасць роднай Беларусі?*
1990г.

Слонімскі раён, вёска Вецявічы



*Фота А. МАЦЮША*

ПРОЗА

Іван НАВУМЕНКА

# ТРЫ АПАВЯДАННІ



## Баба Зося на трыбуне

Пісьменніку Івану Пальчыку, перш чым узяць ад яго анкету, сказалі:

— Тут адно пытанне выпала. Скажыце: запішам. Ці заўважалі ў сваіх родзічаў якую-небудзь схільнасць да пісьменніцкай работы? Напрыклад, красамоўства, высокую адухоўленасць, непрактычнасць у бытавым жыцці…

Іван Пальчык, худаваты, з завостраным носам і прыкметным рабаціннем на вузкім тварыку, замяшаўся:

— Так, з ходу, не адкажаш…

— Падумайце. Зайдзіце заўтра ці паслязаўтра. Не гарыць.

Іван Пальчык выдаў два зборнікі вершаў і кніжку апавяданняў. Нібыта ядрэнныя кніжкі. Тым часам продкамі пісьменнік яўна незадаволены. Ну, што за прозвішча Пальчык? Што чалавек з такім прозвішчам можа сказаць грамадству, тым болей інтэлігентным людзям? Хоць бы які-небудзь Шастапал, ці ў горшым выпадку Пальцінскі. А то паэт і празаік Пальчык…

Думаў Пальчык аб сваіх продках і нішто прыстойнае не лезла ў галаву. Вось дзед па бацьку Павел. Звычайны селянін. Страшэнна працавіты. Гадзіны не мог згуляць. Іван памятае, як ляжаў з дзедам на печы, і дзед расказваў бясконцыя гісторыі з евангелля, якія пачуў у царкве. Дзед быў непісьменны, ведаў адну толькі літару «О», але запамінаў пакручастыя аповеды пра шматпакутнага Ноя, царыцу Саўскую, Юду Іскарыёта, будучага здрадніка. Тыя вельмі абмежаваныя рэлігійныя веды, якімі Іван валодае, даў яму менавіта дзед.

Іван успамінае больш далёкіх родзічаў і не можа знайсці ніводнага, хто хоць бы трохі меў пісьменніцкія здольнасці. Адзін іграў на скрыпцы, другі пасняхова хадзіў ля пчол, дзве далёкія цёткі лячылі травамі і ўмелі загаворваць кроў.

І раптам як бы вогненная маланка асвяціла мысленныя пошукі пісьменніка Пальчыка. Бабка Зося любіла яго больш, чым двух астатніх братоў. Нават песню пра яго спявала: «Шанька-Ванька пахвалёны, шапка сіня, верх зялёны»… Яна шкварыла яму яешню, частавала перапечкамі, арэхамі, семкамі-лузганцамі.

Сама бабка была відная з сябе, гаварлівая, языкастая. Калі дзед ведаў толькі некаторыя царкоўныя гісторыі, то бабка ведала ўсё на свеце. Усім тубыльцам доўгай мястэчковай вуліцы давала прозвішчы, і яны неяк адразу прыжываліся.

Але выславілася яна не гэтым. Сельсавет, як лічыла бабка, несправядліва накладвае падаткі. Яна лаяла, зневажала як магла сельсаветчыкаў, не давала ім праходу. І вось аднойчы, калі ішоў першамайскі мітынг і была ў зборы ўся грамадскасць сельсавета, бабка палезла на трыбуну. «Старшыня! – гукала яна на ўсё наваколле. – Ці забыў, як качаўся жыватом у маім просе, перапіўшы гарэлкі? Смалы я паставіла б сення табе, а не першаку, каб ведала, які ты двудушны. А ты, сакратар, дарагі мой пляменнік Сцяпан, родная дзядзьку ў кулакі запісаў. Ці ты не бачыў, як ён задам свяціў, да сёмага поту жылы рваў, рабіў без продыху, каб ты грудзьмі рабіў?!.»

Бабку Зосю не вельмі злосна ссадзілі з трыбуны, але самі сельсавецкія начальнікі доўга ўспаміналі яе палкую прамову і тыя характарыстыкі, якія яна дала кожнаму з іх.

Іван Пальчык наважыў расказаць пра талент бабкі Зосі. Толькі сам ён нічога смелага, вострага, хоць бы трохі падобнага на бабчыну прамову, не напісаў.

## Як мы скасавалі збожжавы падатак

Мы ехалі з Германіі на ўласных транспартных сродках. Дзіва няма: армейскі полк сувязі мае дастаткова айчынных машын і замежных «студэбекераў».

На тым месцы, дзе пераязджалі граніцу, стаяў пасівелы генерал, узяўшы пад казырок, аддаваў чэсць кожнай машыне. Вось так сустракалі нас, пераможцаў.

Хадзілі чуткі, што паедзем далей, у Японію. Нас павезлі на станцыю, пагрузілі ў вагоны, але потым загадалі разгрузіцца. Там, на сопках Маньчжурыі, справы і без нас ішлі някепска.

Мы размясціліся ў заштатным гарадку N, які ўвесь патанаў у вішнёвых і яблыневых садах. Нас папярэдзілі: за межы гарадка па адзіночцы не выбірацца, можна напароцца на бандэраўцаў.

Тым часам плявалі мы на Бандэру. Зламалі рогі Гітлеру, то і з Бандэрам як-небудзь справімся. Хадзілі ў бярозавыя, дубовыя гайкі. За гарадком, цішком бралі чарку і ні разу не было выпадку, каб сутыкнуліся з бандытамі.

Ішлі мірныя дні. Паспелі ў полі пшаніца, ярына, пачынаўся час хлебанарыхтовак.

Раённыя ўлады рашылі накіраваць у вёскі брыгады агітатараў, каб лацвей ішлі хлебанарыхтоўкі. Тым болей, што ў якасці агітатараў падабралі самых пісьменных, свядомых учарашніх воінаў.

У адну такую брыгаду трапіў Змітрок Савоська, старшына, у якога за плячамі было дзесяць класаў. Яго часова нават прызначылі кіраўніком брыгады.

Сяло трапілася немалое, раскіданае. Хаты глінабітныя, вішнёвыя садкі ледзь не каля кожнай. Амаль як у вершы Тараса Шаўчэнкі.

Ткнуліся ў першую хату. Гаспадыня ў доўгай спадніцы, у павязанай па самыя вочы хустцы, як толькі даведалася, чаму мы з'явіліся, залямантавала:

— Мае вы родненькія!.. Які такі хлебазагатоўкі. Мужа не маю. Дзеці на заціры сядзяць. Мы самі хлеба год у вочы не бачылі. Дзеці пухнуць ад голаду…

Дзеці – мала малога менш – коўзаліся па глінянай падлозе. Разабраць, дзе хлопчык, дзе дзяўчынка, было немагчыма. Усе трое былі ў доўгіх кашульках. Штаноў не меў ніхто. І ўвогуле ў хаце патыхала безнадзейнай беднасцю.

— Дзе муж? — спыталі мы.

— Сабакам сена косіць, — са злосцю адказала гаспадыня. – Можа, другую завёў. Паўгода не бачыла. Не муж, а быдліна…

Параіўшыся з таварышамі, Змітрок Савоська абнадзеіў гаспадыню:

— Будзем хадайнічаць, каб вызвалілі ад падатку як бедную сям'ю, у якой няма гаспадара.

— Спасібі, хлопчыкі.

Карціна паўтараецца і ў наступнай мазанцы. Гліняная падлога, лахманы і трантты на ложку, галапузыя дзеці, якія залезлі на печ і глядзяць адтуль спалоханымі вачанятамі. Гаспадара і тут няма.

Гаспадыня пачынае з крыку:

— Каня не маю, каровы не маю, казу і тую ўкралі. Якую загатоўку магу здаць? Нічога не сеяла. Калі хочаце, забірайце дзяцей ў яслі. А мяне самую – у турму…

Нічога не гаворачы, агітатары вывальваюць з хаты.

На дзвярах трэцяй хаты вісіць замок. Вялікі: такія замкі вешаюць на дзвярах магазінаў ці якіх-небудзь гаспадарчых складаў.

У наступнай мазанцы муж з жонкай б'юцца. У яе крывападцёк пад вокам, у яго распласаваная сарочка і пісяг на грудзях і жывацэ. Сямейнікі настолькі раз'ятраны, што не заўважаюць агітатараў. Наскокваюць адно на аднаго, як ачмурэлыя пеўні.

Салдаты, што вярнуліся з вайны, бойку не разбараняюць. Не іх гэта справа. Пастаяўшы некалькі хвілін, паварочваюцца, выходзяць.

Яны воіны, прымалі прысягу, і таму да канца выконваюць ускладзенае на іх заданне. Праходзяць левую лаву мазанак з канца ў канец. І толькі ў дзвюх не вызваляюць гаспадароў ад збожжавага падатку. У канцы сяла сутыкаюцца з другой групай, на чале якой малодшы лейтэнант. Гэтая група аказалася больш жорсткай: не вызваліла ад падатку тры гаспадаркі і адну пакінула пад пытаннем.

А ўсяго ў сяле пяцьдзесят дзве мазанкі.

Раённыя ўлады наадрэз адмовіліся прыняць спіскі, якія склалі вайскоўцы-агітатары.

— Нават не ведаеце, які хлеб ясцё, — злосна сказалі ў райвыканкаме.

Палкавы «смершавец», старшы лейтэнант, на справу паглядзеў інакш.

— Ваша лібералізацыя – суцэльнае глупства, — прамовіў. – Вы заўважылі, што ў хатах няма мужчын. Дзе яны? Так што, можа, і добра, што ціха скончылася. Бандэраўцы ў кустах сядзелі, за вамі цікавалі. Мы яшчэ іх прыціснем…

## Дзеці кулака

Былы карэспандэнт абласной газеты, а цяпер дацэнт мовазнаўчай кафедры інстытута Барыс Райкоў даўно збіраўся наведаць вёску Гагалі, дзе ў апошнія перад вызваленнем месяцы стаяў іхні партызанскі атрад. Ён старэе, дзеці паканчалі інстытуты, а ён за чатыры дзесяткі гадоў так і не здолеў выбрацца ў лясную ахайную вёску, якая часта паўстае ў вачах у бяссонныя ночы.

Вёска як вёска. У першыя пасляваенныя гады, калі Барыс вандраваў па бедных калгасах, ён быў завярнуў у Гагалі. І можна сказаць, незвычайны выпадак здарыўся з ім паблізу гэтых Гагалёў. На пачарнелым снезе ён убачыў кавалачак газеты. «Калі газета наша, — падумаў тады Барыс, — то мяне чакае ўдача». Газета аказалася не толькі той, у якой працаваў карэспандэнт, але на кавалачку трохі пабільгатнелай паперы стаяла прозвішча карэспандэнта. Барыс не знайшоў нічога лепшага, як насыпаць на газетны квадрацік махоркі і закурыць. Ніякая асаблівая ўдача карэспандэнта тым часам не напаткала. Але выпадак з-за сваёй незвычайнасці засеў у памяці.

Дарэчы, Райкоў хацеў пабачыць штабную хату, у якой часта бываў. Яна належала паліцаю, які збег у раённае мястэчка. Партызаны на гэта не зважалі: на свеце быў сорак трэці год.

Многа чаго адбылося за так званыя пасляваенныя гады. Дацэнт Райкоў цяпер пенсіянер, мае шмат вольнага часу, і прыйшла нарэшце пара здзейсніць задуманае.

Ён спісаўся са знаёмым настаўнікам, такім як сам пенсіянерам, у якога можна пераначаваць.

Настаў месяц май. Надышоў дзень Перамогі. Райкоў паехаў у чыгуначны гарадок, дзе цяпер жыве знаёмы настаўнік. Таварыш Райкова – завуць яго Іван Драгун – прыкметна пастарэў: не бачыліся яны некалькі гадоў. Але галоўнае не гэта. Сталі адымацца ногі. Іван з цяжкасцю ходзіць.

Зрэшты, не ўсё так дрэнна. Ёсць у Івана «Жыгулі», ледзь не па суседстве жыве пляменнік, які цяпер водзіць машыну. Іван не здаецца: мае за горадам агарод і нават невялічкую пчаліную пасеку.

Дык вось, месяц май. Дзень Перамогі. Іван партызаншчыны не ведае: быў на фронце. Фронт, можна сказаць, істотна выправіў Іванаву біяграфію.

Справа ў тым, што Іван – сын кулака. Яны з братам Анісам не ведалі дзе дзецца ў перадваенныя гады. Нарэшце махнулі аж у Сярэднюю Азію. Івану з братам удалося прабіцца ў настаўніцкі інстытут.

Пасля вайны яны з'явіліся ў роднай вёсцы, якая бадай што суседнічае з Гагалямі. Іван – звольнены ў запас старшы лейтэнант, і Аніс – старшына. Абодва партыйцы, маюць узнагароды.

Пасяліліся ў ранейшай, доўгай, як два счэпленыя таварныя вагоны, хаце. Узялі, не надта ў каго пытаючы, лепшай зямлі пад агароды.

Вяскоўцы ўзбунтаваліся. Як так, кулацкія сыны зноў камандуюць? З якога часу займелі такую ўладу?

Тым часам Іван і Аніс мелі цвёрды адказ:

— Мы на вайне кроў пралівалі, а вы тут немцу зад лізалі…

Шкала каштоўнасцей кардынальна перамянілася. Ніхто цяпер не думаў пра кулакоў. Вяскоўцы перамен проста не адчувалі. Іван у хуткім часе стаў намеснікам дырэктара МТС па палітчасцы, Аніс – загадчыкам райана. Дзеці кулака…

Райкоў насіў у карэспандэнцкай сумцы калектыўны ліст вяскоўцаў у рэдакцыю абласной газеты. Наконт дзяцей кулака. Ён яго так нікому і не паказаў, Не мела сэнсу.

Іван пасля таго, як партыйных органаў не стала, пайшоў у настаўнікі.

Дрэвы ў маладой лістоце. Водар вясны кружыць галаву. Прабіваецца першая трава, шчабечуць птушкі. Не дзіва ўбачыць матыля – белага ці жоўтага ў цёмныя крапінкі.

Гагалі на месцы. Пабудаваныя з добрага сасновага лесу хаты не маюць таго святочнага выгляду, што мелі ў вайну. На працягу паўвека іх абвявалі вятры, абмывалі дажджы. Хаты як бы папрысядалі, улезлі ў зямлю. А штабной хаты, звернутай вокнамі, дзвярамі на вуліцу, наогул няма. Яе гаспадыня, як высветлілі нашы падарожнікі, прадала яе на знос. Можа, таму, што сын яе быў паліцаем.

Пра кулакоў людзі пакрысе забываюць, пра злосных паліцаяў добра і доўга памятаюць.



## *Ілюзіі і факты фатаграфіі*

**Для творчасці Уладзіміра Парфянка размова пра аб'ектыўнасць адлюстравання свету сродкамі фатаграфіі і ілюзіі, якія пры гэтым могуць стаць дамінуючымі, невыпадковая. Прынцыпам яго творчага падыходу з'яўляецца спроба «раскадзіраваць» рэчаіснасць. Магчыма, таму ў яго творчым зборы амаль няма проста панарамных здымкаў. У.Парфянок заўжды шукае асноўную,**



**дамінуючую дэталь фотаздымка, якая б дапамагала прачытваць і сэнс, і яго падтэкст — думкі самога фатографа. Бо фатаграфія — мастацтва не менш індывідуальнае, чым жывапіс ці графіка. Так лічыць і сам Уладзімір, і пры кожным спрыяльным выпадку імкнецца гэта давесці і мастакам-станкавістам, і чытачам часопіса «Мастацтва», рэдактарам аддзела фатаграфіі якога ён сёння з'яўляецца. Але ці ж варта адстойваць правы таго, што мае ўжо рэальна акрэсленае месца? Суб'ектыўная прырода фатаграфіі абумоўліваецца самім выбарам моманту падзеі, ракурсам, інтэрпрэтацыяй аўтара і гледача, тэхнічнай і інтэлектуальнай «гульнёй» з аб'ектам, што апошнім часам стала прыкметай постмадэрнісцкіх канцэптуальных вышукаў фатографаў.**

**Умоўнасць і шматзначнасць фотаздымкаў стала асновай і апошняй выставы Уладзіміра Парфянка «Недаставерныя факты з месца падзеяў», якая працуе зараз у М-галерэі Інстытута Гётэ ў Мінску. Мастак прадставіў тут некалькі серый сваіх работ апошніх год. Шэраг фотаздымкаў прысвечаны адвольна выбраным гарадам (Калінінград, Ленінград, Капенгаген, Афіны, Стакгольм), якія падаюца праз адну, але вельмі выразную дэталь. Так, напрыклад, Афіны бачацца мастаку праз малюнак камянёў, Калінінград — праз чароды птушак над морам, а Капенгаген — праз фіранкі на вокнах. Фотаздымкі з серыі, якая дала назву ўсёй выставе, Уладзімір назваў «сапраўднымі «носьбітамі «будучага фатаграфічнага вобраза». Заэкспанаваныя кадры нагадваюць «чорныя дзіркі», кадры ілюзорнага, кантакту з рэальнасцю. Каб узмацніць эфект, у адну з серый фатаграфій У.Парфянок увёў вербальны шэраг. Серыя «Аўстрыйскі дзённік» створана па матывах паэзіі Восіпа Мандэльштама і пад уражаннем канцэптуальнага мастацтва амерыканкі Джэні Хольцэр. У прасторы гэтых рэальных фраз аўтар стварыў нечаканы ілюстрацыйны, пазачасавы фатаграфічны шэраг, ілюзію аб'ектыўнай рэальнасці.**

**Наталля ШАРАНГОВІЧ**

*На здымку: фотамастак Уладзімір Парфянок.*

*Фота М.ПРУПАСА*

ТЭАТР

# Казка для дарослых

«Паважаныя гледачы! Калі ласка, выключыце свае пэйджэры і мабільныя тэлефоны. Давайце паважаць працу акцёраў!» Здаецца, такі прызыў гучыць са сцэны Купалаўскага тэатра ўпершыню за ўсе восемдзесят гадоў ягонага існавання.

Што рабіць — час дыктуе свае ўмовы. Тэатр усё больш пачынае залежаць ад сваёй меншай, але надзвычай няўрымслівай сястрыцы—кінематаграфіі з яе відовішчнасцю і хуткімі тэмпамі. А на сённяшнім экране пастаральных сялянак і перадавікоў працы з квадратнымі падбародкамі выцеснілі не менш квадратныя падбародкі крымінальных аўтарытэтаў ды мужных супергерояў. Даводзіцца і тэатру, як кажуць, «адпавядаць». Самы рэпертуарны драматург краіны Аляксей Дудараў гэтыя патрэбы часу адчуў. Застаўшыся верным сваёй улюбёнай тэме — каханню, ён напісаў (кажуць — за дванаццаць дзён) крымінальную меладраму «КІМ». Першымі за п'есу ўзяліся маладзечанцы з Мінскага абласнога драмтэатра, і іх праца не засталася незаўважанай на апошняй «Маладзечанскай сакавіцы». А цяпер «КІМа» паставіў акцёр і рэжысёр Аляксандр Гарцуеў. Што цікава, паставіў адразу ў двух тэатрах: сталічным Купалаўскім, пра чый спектакль і пойдзе размова, і Магілёўскім абласным, дзе прэм'ера адбылася на два месяцы пазней.

«КІМ» яшчэ раз засведчыў адметнасць рэжысёрскага почырку Гарцуева, які ўсе свае спектаклі будуе на спалучэнні дакладнага і нават жорсткага рытму, што не пакідае ніводнай сэнсава не запоўненай паўзы і абумоўлівае хуткую, амаль кінематаграфічную змену карцін, з трапна падабраным музычным афармленнем. Дарэчы, сам тэрмін «афармленне» не вельмі прыдатны для абазначэння музычнай палітры гарцуеўскіх спектакляў, бо музыка ў іх не суправаджае, а хутчэй вядзе за сабой дзеянне. Ярчэй за ўсё гэтая «фірменная» рыса бачна ў спектаклі «Трыстан ды Ізольда», дзе мізансцэны ўвогуле выстраіваліся ўслед за касмічнай музыкай «Эры». Але і ў «КІМе» лірычныя пераборы гітары, што чаргуюцца з напорам «бандыцкіх» рытмаў, трапляюць «у яблычка». Не апошнюю ролю ў стварэнні сучаснага «кліпавага» спектакля адыгрываюць і харэаграфічныя ўстаўкі, якімі займалася балетмайстар Марына Дударава, і «лазернае шоу», пастаўленае мастаком па святле Ірынай Ключнік. Сцэнограф Дар'я Волкава для больш хуткай, зноў жа «кіношнай» трансфармацыі сцэнічнай прасторы падзяліла яе надвое высокай белай сцяной-экранам і прывяла ў дзеянне тэатральны круг, што ўсё часцей застаецца зараз без працы. Саміх жа дэкарацый на сцэне ўвогуле няма — толькі гранічна функцыянальныя сталы ды крэслы. Тут ужо не схаваешся за вычварную бутафорыю і кідкія касцюмы. Уся ўвага сфакусавана на інтрызе, на героях і іх пачуццях.

Дзеянне спектакля даволі канкрэтна прывязана да месца і часу. Месца — Беларусь, час — другая палова дзевяностых, дзесяцігоддзе пасля Чарнобыля. Ні разу наўпрост не ўзгаданая трагедыя стала і асабістай трагедыяй маленькай, але вельмі дружнай сям'і. Маладая дзяўчына, прыгажуня Юля, якая ўзяла на выхаванне траіх дзяцей-сірот, атрымала «ў спадчыну» ад Чарнобыля невылечную хваробу. Невылечную — у нас, пры небагатай дзяржаўнай медыцыне. Але шанц усё ж такі ёсць, і каштуе ён ні многа ні мала — 50 тысяч тых самых у. е. Дзе дастаць такія грошы шаснаццацігадоваму хлопцу, Юлінаму выхаванцу? Шчыры, абаяльны Кім ідзе на паклон да «новых беларусаў», але не вельмі разлічваючы на іх міласэрнасць да чужака, ён... называе сябе іх сынам. Так лёс у асобе драматурга прыводзіць хлопца да яшчэ аднаго КІМа — Каралёва Ігара Міхайлавіча, напаўкрымінальнага бізнесоўца. Таго самага, якога Юля нядаўна выратавала ад кулі бізнес-вараціпы Халдзеева. Выратавала і пакахала. Гэта — толькі завязка, а наперадзе герояў чакае яшчэ нямала надзей, расчараванняў, прыгод і адкрыццяў. Не раз на вочы навернуцца слёзы, не раз на вуснах з'явіцца ўсмешка. Але можна быць упэўненым — усё ў рэшце рэшт скончыцца не добра, а нават вельмі добра. Тыя, што кахаюць, — будуць разам, «дрэнным» героям надакучыць быць дрэннымі, а невылечная хвароба стане вылечнай. Хэпі-энд, як і мае быць у меладраме.

Новы спектакль купалаўцаў багаты на цікавыя акцёрскія працы. Вельмі спадабаўся Андрэй Кавальчук, які да гэтай пары быў нібыта заслонены заслужанымі і народнымі артыстамі сталічнага тэатра. Адметны сталай, сапраўды мужчынскай прыгажосцю Каралёў-Кавальчук уражвае незвычайным спалучэннем грубаватай моцы і душэўнай безабароннасці. Ён адначасова і драпежнік, што прызвычаіўся не давяраць нікому, і маленькі хлапчук, якому вельмі хочацца гэтага самага даверу. На жаль, так і не давялося пабачыць у гэтай ролі заслужанага артыста РБ Генадзя Давыдзьку. Дударáўскі Каралёў — роля аднаго плана з «душэўным» бандытам Люкам, якога выдатна сыграў Жэрар Дэпардзье ў стужках «Уцекачы» і «Бацькі». Цікава, што возьме беларускі акцёр, такі падобны знешне на знакамітага француза, ад яго прыёмаў, а што знойдзе свае, непаўторнае?



Другое прыемнае адкрыццё ў спектаклі — вучань 136-й мінскай школы з тэатральным ухілам Мікіта Гузоўскі, які іграе свайго аднагодку, шаснаццацігадовага Кіма. Для Гузоўскага гэта адна з ключавых роляў, гэта вялікая адказнасць, але і выдатны працяг тэатральнай кар'еры, бо на рахунку хлопца ўжо ёсць галоўная роля ў ТЮГаўскім «Маленькім лордзе Фаўнтлярої». У «КІМе» Мікіта здолеў не разгубіцца ў прасторы вялікай сцэны, захаваць шчырасць і непасрэднасць, так неабходныя для яго героя. Гэты спектакль паказаў буйным планам і іншую купалаўскую моладзь. Ролю Юлі падзялілі дзве былыя аднакурсніцы па Беларускай акадэміі мастацтваў — Святлана Зелянкоўская і Святлана Кажамякіна. Да вобраза «ружовай» гераіні цяжка дадаць нешта новае, але актрысы здолелі надзяліць яе пэўнай індывідуальнасцю. Калі Юля-Зелянкоўская — вытанчаная, сумная і сапраўды «незямная», дык у Юлі-Кажамякінай заўсёды за смуткам праглядвае вера ў жыццё і добрая ўсмешка. Куды больш магчымасцяў для стварэння адметнага сцэнічнага характару атрымалі Ганна Хітрык і Марына Гардзіёнак, якім дасталася роля медсястры Лены. Вострая на язык, баявая і разам з тым вельмі ўразлівая і добрая Лена ажыўляе любую сцэну, большая доля трапных жартаў і весялосці ў спектаклі ідзе менавіта ад яе. Шкада, што не ў кожнай бальніцы і не кожная медсястра ставіцца да сваіх па-

ПРЭМ'ЕРЫ

# Галактыка... для ўсіх?

Словам "галактыка" вызначаюцца гіганцкія зорныя сістэмы. Уяўляеце ўмоўны касмічны дом? У ім — безліч зорак: і галоўных, "з іменамі", і другой-трэцяй велічыні, і драбнаватых, ды ўсё адно зіхоткіх; і пакуль не адкрытых, і пакуль не названых...

А што ў такім разе азначае галактыка ...кахання?!

Што сабе ні ўяўляй, шукаючы адказу на гэтае пытанне, уласную фантазію давядзецца ўрэшце параўноўваць з аб'ектыўным жыццём. Так-так, "Галактыка кахання" — з'ява жыцця. Ды не абы-якога жыцця, а творчага: вызначаюць гэтыя два словы ідэю і вобраз новай працы Дзяржаўнага музычнага тэатра Беларусі.

Эстраднае шоу "Галактыка кахання" — плён ініцыятывы дырэктара тэатра А.Ісаева, які запрасіў з Растова дырыжора і аранжыроўшчыка М.Радзінскага для падрыхтоўкі фанаграм (класныя беларускія аранжыроўшчыкі чамусьці аказаліся незапатрабаванымі), а пастаноўку відовішча даверыў нашаму вядомаму рэжысёру В.Бізюку.

Абмежаванія фінансавыя магчымасці не дазволілі пакуль дамовіцца з мастакамі, таму "апранаць сцэну" давялося пераважна за кошт калектыўнай фантазіі стваральнікаў ды ўдзельнікаў прэм'еры, шляхам падбору візуальных сродкаў, якія мае тэатр. Што да спецэфектаў... Выкарыстанне жывога агню катэгарычна забаранілі службы МНС. На тое, каб у фінале спектакля ўразіць публіку, напрыклад, маляўнічым выбухам канфеці, бракуе сродкаў: 20 секунд такой радасці вымагае 195 долараў! Нават з выкарыстаннем экрана, які падчас шоу "набліжае" да гледачоў аблічча выканаўцы, расквечваецца камп'ютэрнымі малюнкамі, калажамі кінакадраў і да т.п., — нават з гэтым ёсць праблемы.За арэнду прыстасавання, якое мусіць быць у арсенале кожнага сучаснага тэатра, трэба своечасова разлічвацца, інакш гаспадары экрана могуць проста...не даць яго на спектакль (аднойчы так ужо было). Набыццё ж уласнага экрана — гэта 50-70 тысяч долараў, якія не надта проста здабыць.

Пры ўсіх нягодах, прэм'ера жыве, "Галактыка..." поўніцца зоркамі музычнага тэатра, пачуццямі шчырай узаемнай любові артыстаў і публікі, іскрынкамі натхнення і майстэрства. На працягу дзвюх з лішкам гадзін, без антракта і абвестак (на жаль, няма нават праграмкі), "нон-стопам" змяняюць адно аднаго сцэны з аперэт і мюзіклаў, харэаграфічныя нумары, папулярныя оперныя арыі, эстрадныя песні. Іх падрыхтавана ці не 60 (!), у кожны спектакль уключаецца каля паловы.

Сінтэтычнае гучанне фанаграмы, загрувашчаныя "электронікай" аранжыроўкі хутка надакучваюць і прымушаюць заміламана ўспомніць хай сабе інтанацыйна і не вышкталцоны, з фальшывінкай, але жывы аркестр жывога Музычнага тэатра. Балазе, артысты (у тым ліку хор пад кіраўніцтвам С.Пятровай), асвоўшы нязвыклую пра-





цыентаў так, як робіць гэта Лена ў адносінах да Юлі. Яна ўмее шчыра перажываць і нават не баіцца сказаць вельмі непрыемныя словы КІМу, чалавеку, якога пабойваецца сам Халдзееў. Халдзеева, былога сябра КІМа па Афганістане, а зараз — такога ж бізнесоўца, іграюць заслужаны артыст РБ Аляксандр Падабед і Аляксандр Лабуш. Нават «Халдзей», гэты мацёры воўк, які не ведае літасці, «перавыхоўваецца» ў канцы спектакля — ці то пад уплывам падараванай КІМам Бібліі, ці то перахваляваўшыся за дачку, ці то расчуліўшыся Юлінай гісторыяй. Амаль уся мужчынская моладзь тэатра— В. Макарэвіч, А. Гладкі, М. Зуй, Р. Падаляка, А. Паўлаў, М.Прылуцкі, І.Пятроў, С.Чуб, П. Яскевіч — апранутыя хто ў дзелавыя касцюмы, хто ў скуранкі, яны— «братва». Менавіта ім даводзіцца харэаграфічна валтузіць адзін аднаго, ілюструючы бандыцкія «разборкі».

Паўнюткая зала, доўгія апладысменты, якімі гледачы доўга не адпускаюць са сцэны выканаўцаў... Трыццаць пяць год таму на Купалаўскай сцэне такой жа вялікай глядацкай папулярнасцю карысталася іншая, за савецкім часам, зразумела, не «крымінальная», а проста псіхалагічная меладрама «Выклік багам» Анатоля Дзялендзіка. Гэтая п'еса з першапачатковай назвай «Чатыры крыжы на сонцы» з поспехам ішла на шматлікіх сцэнах усяго былога Саюза. І Дзялендзік, і Дудараў выкарысталі бяспройгрышны драматычны ход, што заўсёды даспадобы гледачу — у аснову сюжэта яны паклалі гісторыю дзяўчыны, якую пасля доўгіх выпрабаванняў лёсу пазбаўляе непазбежнай гібелі цуд кахання. А ў «КІМе» да Юлінага выратавання далучаецца яшчэ і духоўнае выратаванне «драпежніка» Каралёва, што на жаноцкую — і асноўную — частку тэатральнай аўдыторыі ўздзейнічае яшчэ мацней.

Чаго ж чакае глядач ад драматургіі і тэатра? Наўрад ці толькі злабадзённасці ды эстэтычнага задавальнення. Гэта патрэбна дарослым, якія добра засвоілі, з якога боку на бутэрбродзе масла і што не ўсім выпадае жыць доўга і шчасліва, як у казачным фінале. Але час ад часу ад гэтай рэальнасці становіцца так моташна, што дзівакі-дарослыя пачынаюць прыдумляць казкі і баіць іх сабе самім. Робяць яны гэта з задавальненнем, але з заўсёднай аглядкай — а раптам хто-небудзь залішне сур'ёзны пачне папракаць за адсутнасць жыццёвай праўды ды сацыялістычна-капіталістычнага рэалізму? «КІМ» — тая самая казка, дзе Біблія выратоўвае жыццё і душу, дзе сын знаходзіць бацьку, а бацька — сваю любую, дзе невылечная хвароба адступае перад каханнем.

**Юлія ПАЛАЧАНІНА**

*На здымках: Каралёў— А. Кавальчук; сцэна са спектакля.*

*Фота А. ДЗМІТРЫЕВА*





цу з мікрафонамі, спяваюць жыўцом, дынамічна рухаюцца пад "мінусоўку" ў прасторы "галактыкі".

Якая цудоўная моладзь прыйшла ў трупу! Як арганічна дапаўняюць адно аднаго артысты новага, вядучага, сталага пакаленняў! Дуэт з "Пацалунка Чаніты" Ю.Мілюціна ў выкананні І.Шыцікавай ды Э.Мартынюка, "Шаланды поўныя кефалі" і куплеты Мэкі-Нажа з А.Ранцанцам у атачэнні К.Дзегцяровай, Д.Якубовіча, Ю.Шпілеўскай; І.Цярэнцьева ў вобразе Пепіты-д'ябла, В.Сердзюкоў у куплетах Зупана. Душка Боні — Д.Якубовіч, пластычны танец Ю.Шпілеўскай ды Д.Якубовіча. "Брадвейскія" персанажы К.Дзегцяровай ("Чыкага, нашы дні"), І.Казакевіч ды А.Грыненкі ("Прывід оперы"). То ў аблічча Кармэн, а то ў грыме "пад Лайзу Мінэлі" — С.Мацієўская. Шубертава "Ave Maria" з Л.Лют. Сапраўдны прэм'ер ва ўсіх ролях — В.Бажэнаў, непараўнальная прыма — Н.Гайда. І гучнагалосы абаяльны А.Ісаеў. Колькі ж іх!

Калейдаскоп мелодый, стыляў, манер. Музыка розных часоў і народаў. "Чардаш" і "Хава нагіла", усходні танец і савецкая песня, канкан і танга, "Хабанера" і "Шымі"... Адкрытая для ўсіх "Галактыка кахання"! Шкада, не знайшлося ў ёй месца для беларускай мелодыі, беларускага слова... Хіба не ўпрыгожыла б фінал гэтага стракатага шоу, напрыклад, наша класічная "Зорка Венера" — так і ўяўляю сабе яе гучанне ў сакавітай сучаснай аранжыроўцы, з хорам, з пранікнёным барытонам А.Ісаева...

У адрозненне ад іншых пастановак, "Галактыка кахання" — адкрыты праект. Ініцыятыўныя артысты не спыняюць пошук рэпертуару, прапануюць свае нумары, з якімі хацелі б удзельнічаць у гэтым шоу. Дачакаемся новага?

**С.БЕРАСЦЕНЬ**

*На здымках: сцэны з "Галактыкі кахання".*

*Фота В.СТРАЛКОЎСКАГА*

МУЗЫКА

# Маэстра, закаханы ў Пінск

***Музыка ў гэтым доме гучала заўсёды. Музыкантамі былі бацька, дзядзька. Гукі музыкі нараджалі ва ўяўленні хлопчыка светлыя, прывабныя вобразы. У тры гады рукі яго ўпершыню дакрануліся да клавішаў. І з таго часу лучыць маэстра з фартэпіяна непарыўная сувязь. Чалавек і інструмент вядуць бясконцы дыялог, поўны любові і разумення, веры і адчайнай шчырасці...***

Дзевяцігадовым хлопчыкам прыехаў Алег Венгер у Пінск. Улюбіўшыся ў гэтую старадаўнюю прыгажосць (як умее ён улюбляцца ва ўсё цудоўнае), робіць усё, каб горад, у якім ён жыве, быў напоўнены гукамі і фарбамі, не страціў сваю духоўнасць.

Той, хто слухаў музыку Алега Венгера, бачыў яго як выканаўцу, не мог не ўсвядоміць, што за інструментам — Майстар, чалавек творчы, рукі якога выказваюць тое, што думае і адчувае сэрца, да чаго імкнецца душа, якая спявае.

Прырода — шчодрая маці. І ў яе, як у жанчыны, што дала жыццё вялікаму патомству, ёсць свае выбраннікі і любімцы. Ім дорыць яна неацэннае багацце — талент. Людзі гэтыя, адзначаныя асаблівым дарам, як ніхто іншы, адчувальныя і здольныя зразумець прыгажосць і спрадвечнасць навакольнага свету. У жаданні перадаць яе, данесці да сэрца кожнага, яны выкарыстоўваюць усе магчымыя сродкі — гукі, фарбы, рух.

Алег Венгер — з ліку тых, каму лёс падараваў жыццё творчае, напоўненае толькі яму зразумелымі гукамі і фарбамі. Музыкант, кампазітар, ён і выдатна малюе, умее перадаць паэзію жыцця, яго самыя незвычайныя штрыхі ў графіцы, скульптуры, фатаграфіі, вырабах з металу.

Але галоўным для яго застаецца музыка. І ўсё жыццё ён удасканальвае сваё прафесійнае майстэрства.

Алег Венгер закончыў Брэсцкае музычнае вучылішча, інстытут культуры, больш як трыццаць гадоў працуе ў Пінскай музычнай школе. Вучань не педагогаў М.Галінай і А.Паляковай, усе гэтыя гады аддаваў таму, каб запальваць і ў сэрцах уласных вучняў дух мяцежнай творчасці. І ў гэтым асаблівасць яго як педагога: неардынарны ў парушэнні ўсіх догмаў і нормаў падыход да навучання ігры на фартэпіяна, спевам, эстраднаму выканаўчаму майстэрству, імправізацыі, складанню музыкі. Многія яго вучні назаўсёды звязалі сваё жыццё з музыкай. Іншым, дзякуючы ўрокам настаўніка, свет адкрыўся ва ўсёй сваёй шматгучнай паўнаце.

Поруч з Маэстра заўсёды таленавітая, дапытлівая моладзь. У яго творчай біяграфіі вылучаюцца створаныя ім у часы юнацтва інструментальныя ансамблі «Рэха» і «Гукі часу». Яны былі кумірамі пінскай моладзі 80-х.

Што рабілася тады на гарадской танцавальнай пляцоўцы! Паўтары-тры тысячы маладых людзей адначасова збіралі вакол сябе мясцовыя музыканты. Электрычная гітара, клавішныя — гэта быў сапраўдны пераварот. О, шчаслівыя гады непадзельнай папулярнасці «Бітлз» і «Песняроў»! Пінскія ж улюбёнцы — «Гукі часу».

У ансамблі саліравалі будучая ўдзельніца «Верасоў» — Надзея Дайнека, наша эстрадная спявачка Алена Лукашэнка. У «Гуках часу» пачыналі браты Клябанавы, заснавальнікі брэсцкага ВІА «Залатая сярэдзіна».

Алег Венгер тады шмат пісаў. Асноўны рэпертуар ансамбля складалі яго песні «Горкі мёд», «Святло», «Нялюбы мой», «Чорная вуаль». Як правіла, і музыку, і тэксты ствараў сам, браў і вершы мясцовых паэтаў. Надзвычай кранальна гучала «Месяцавая флейта» Валерыя Грышкаўца.

З таго часу мінор у паэзіі і жанр песні-балады сталіся асноўным у творчасці Венгера.

Перайшоўшы праз захапленне маладзёжнай эстрадай, Алег Іосіфавіч сцвердзіўся і ў класічнай музыцы. За цыкл прэлюдый для фартэпіяна «Палескія замалёўкі» ён удастоены дыплома лаўрэата ІІ Усесаюзнага фестывалю народнай творчасці.

Пасля заканчэння джазавага аддзялення Мінскага інстытута культуры (цяпер — Беларускі універсітэт культуры) Алег Венгер стварыў пры Пінскай музычнай школе эстрадную студыю. І вось ужо больш за 10 гадоў кіруе ёю, вядзе і клас фартэпіяна. Сярод выхаванцаў Алега Іосіфавіча — лаўрэаты самых розных конкурсаў, маладыя, але ўжо актыўныя на вялікай сцэне выканаўцы Алена Лукашэнка, Улада Валодзька, Алег Мішкін, Паліна Казлова, Яўгенія Лятун, Таццяна Даніlевіч.

Мінулым летам, працуючы музычным кіраўніком у крымскім лагеры «Дэльфін», А.Венгер паставіў два аўтарскія музычныя спектаклі: «Шахматная феерыя» і «Асоль». Апошні спектакль, прымеркаваны да 120-годдзя А.Грына, быў запісаны Кіеўскім тэлебачаннем і трансліраваўся па Украіне. Гэта сталася салідная заяўкай на ўступленне ў Крымскае аддзяленне Саюза кампазітараў Украіны, куды ён і быў прыняты. Зрэшты, ужо на працягу 12 гадоў Алег Іосіфавіч піша «крымскія» дзіцячыя песні. Студыя тэлебачання Крыма правяла два «жывыя» эфіры і зрабіла перадачы пра беларускага музыканта, дзякуючы чаму ён быў запрошаны на лета 2002 года мастацкім кіраўніком лагера-пансіяната адміністрацыі прэзідэнта Украіны «Вясёлка».

Цяпер пад уражаннем ад вершаў юнай Марыны Фядэнкі А.Венгер працуе над цыклам твораў пад назвай «Гарадскі раманс». А яшчэ — ён выступае ў новым амплуа: спевака.

Напярэдадні столькі творчых планаў! Вечар «Венгер і яго сябры — 40 гадоў на сцэне», у перспектыве — запіс цыкла «Гарадскі раманс» з Надзеяй Мікуліч, план супрацоўніцтва з беларускімі выканаўцамі...

«Я застаюся і застаюся пянчуком, — кажа А.Венгер. — Горад літаральна зававаяў мяне — і я служу яму».

**Валянціна КАРАГОДЗІНА,**

**вядучы спецыяліст Брэсцкага абласнога грамадска-культурнага цэнтра**



## Пра Слуцкі збройны чын

**Раманам выдатнага беларускага пісьменніка Уладзіміра Караткевіча «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» выдавецтва «Беллітфонд» распачало вялікую кніжную серыю «Беларускі гістарычны раман», у якой будзе расказана пра важнейшыя падзеі нашай шматвекавой гісторыі. Раман У.Караткевіча пра беларускае сярэднявечча з'явіўся на паліцах кнігарань на пачатку 2001 года. А ў канцы гэтага ж года выйшаў другі раман серыі — «Пляц волі» маладога беларускага пісьменніка Алеся Пашкевіча. Гэты твор пра недалёкую, але малавядомую нам беларускую мінуўшчыну — першыя дзесяцігоддзі XX стагоддзя, гады нараджэння і станаўлення беларускай дзяржаўнасці. Асноўная частка рамана прысвечана зусім мала асветленай старонцы нашай гісторыі — Слуцкаму збройнаму чыну 1920 года. Сярод герояў кнігі — вядомыя пісьменнікі і грамадскія дзеячы Алесь Гарун, Ядвігін Ш., Максім Багдановіч, Янка Купала, Вацлаў Ластоўскі, Францішак Аляхновіч, Адам Бабарэка, Уладзімір Дубоўка, Уладзімір Жылка, Макар Краўцоў, Юрка Лістапад, Раман Скірмунт, Паўліна Мядзёлка, Аляксандр Уласаў, Усевалад Ігнатоўскі, Кастусь Езавітаў і многія іншыя.**

**У рамане «Пляц волі» аўтар выкарыстаў многа новых, невядомых усім матэрыялаў, якія доўгі час ляжалі без руху ў спецсховах і не выдаваліся нават навукоўцам для азнаямлення. Усе яны знайшлі цяпер месца на старонках рамана-дакумента Алеся Пашкевіча «Пляц волі» — для тых, хто хоча ведаць сапраўдную, а не фальсіфікаваную гісторыю Беларусі.**

**Н.КУДРЭЙКА**

## У «Беларускім кнігазборы» — аднатомнік Цёткі

**Алаіза Пашкевіч, якая ўзяла такі нязвычны псеўданім — Цётка — сапраўды легендарная постаць у гісторыі нашай літаратуры. Яе вершы — гэта жывое, па яе выразе, «пламенне», высокі агонь самой душы. Яна не прыйшла, а ўварвалася ў беларускую літаратуру. Гэта было на зары мінулага стагоддзя, роўна сто гадоў назад (першы яе верш датаваны 1902 годам). У рэвалюцыйныя 1905—1907 гады крылатыя радкі вершаў Алаізы Пашкевіч разляталіся па ўсёй Беларусі лістоўкамі, імі зачытваліся ўсе, набатным звонам будзілі яны беларуса станавіцца гаспадаром сваёй зямлі, сваёй долі. «Веру, братцы, людзьмі станем...» — не стамлялася паўтараць паэтэса.**

**У аднатомнік выбраных твораў Цёткі, што нядаўна выйшаў у папулярнай серыі «Беларускі кнігазбор», уключаны па сутнасці ўсе яе мастацкія творы — вершы, апавяданні, нарысы падарожжаў па краінах Еўропы, публіцыстыка, лісты да дзеячаў беларускай культуры. Упершыню падаюцца ў кнізе складзеныя ў 1906 годзе Алаізай Пашкевіч чытанкі для дзяцей — «Першае чытанне для дзетак беларусаў», "Гасцінец для малых дзяцей» і творы з «Беларускага лемантара». Таксама ўпершыню публікуюцца напісаныя паэтэсай у бурны 1905 год рэвалюцыйныя ўлёткі, звернутыя непасрэдна да народа. Лістоўкі, якія вельмі пераклікаюцца з выпускамі «Мужыцкай праўды» Кастуся Каліноўскага, названымі А.Герцэнам «лятучымі лісткамі».**

**Выдатна дамалёўваюць прывабны партрэт Алаізы Пашкевіч, сапраўднай будзіцелькі нацыі, успаміны сучаснікаў, а таксама выказванні дзеячаў беларускай літаратуры пра незвычайную творчасць паэтэсы-рэвалюцыянеркі, якая стаяла ля самых вытокаў сацыял-дэмакратычнага руху на Беларусі.**

*Чутка йграеш, гулка йграеш*
*Ты на скрыпачцы сваей,*
*К небу думкай падлятаеш,*
*Шчасця зычыш для людзей...*

*Гэй, пяснярка, болей, болей*
*Нам на скрыпцы сваёй грай!*
*Прывітаем хлебам-соляй,*
*Дзякуй скажа родны край...* —

**такімі паэтычнымі словамі горача вітаў Алаізу Пашкевіч Янка Купала.**

**Кніга выбраных твораў Цёткі — для тых, хто хоча ведаць нашу літаратуру, нашу гісторыю. Асабліва студэнты і школьнікі, а таксама аматары прыгожага беларускага пісьменства.**

**Н.САДОЎСКАЯ**

## "ЛіМ"-ФОТА

*"Усе яшчэ маладыя, вясёлыя, усмешлівыя... І зняў іх таксама яшчэ малады Васіль Быкаў".*
*27. 01 1967 г.*



*На здымку: стаяць (злева направа) В. Тарас, Б. Сачанка, Г. Бураўкін, А. Вярцінскі, В. Адамчык; сядзяць — І. Пташнікаў, В. Вярба, І. Чыгрынаў.*

НА АТРЫМАННЕ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПРЭМІІ РБ

# Палац Рэспублікі ўпрыгожылі габелены

З моманту пабудовы Палац Рэспублікі выклікаў у мінчан змрочныя жарты. Знешні выгляд яго не адрозніваўся ні эстэтыкай, ні ўзнёсласцю формаў. Цяжкая манументальнасць патрабавала мастацкай кампенсацыі. Ідэяў выказвалася шмат. Напрыклад, упрыгожыць плошчу перад ім сучаснымі скульптурнымі формамі, як гэта традыцыйна прынята зараз у замежжы. Калектыў маладых скульптараў нават прапанаваў гарадскім уладам эскізы, але рэальнага ўвасаблення яны дасюль не знайшлі. У інтэр'еры Палаца Рэспублікі магло б знайсціся месца і знакамітаму "Габелену стагоддзя" А.Кішчанкі. Гэта было б і найлепшым ушанаваннем памяці народнага мастака Беларусі, і выдатнай мастацкай арганізацыяй аднаго з залаў палаца.

Распрацавалі канцэпцыю мастацкага афармлення інтэр'ераў Палаца Рэспублікі мастакі У.Стальмашонак, В.Даўгяла, В.Чайка, Ю.Іванішын. Непасрэдна над габеленамі працавалі мастакі Н.Пілюзіна, Л.Бартлаў, В.Маркавец-Бартлава, Г.Крываблоцкая, В.Грыдзіна, В.Крывашэева. На жаль, для гледачоў ды і саміх мастакоў магчымасці наведаць палац Рэспублікі і пазнаёміцца з габеленамі вельмі абмежаваныя, прайсці туды можна толькі загадзя замовіўшы пропуск. А паглядзець варта. Знешні выгляд палаца рэзка адрозніваецца ад унутранага вобраза, па-святочнаму светлага, з моцнымі нацыянальнымі ноткамі. Нацыянальны каларыт ствараюць геаметрычна дакладныя "павукі" са шкляньмі ромбамі, што паяднала нацыянальныя традыцыі з сучасным канструктывізмам, свяцільнікі ў традыцыях беларускага саломплецення. Але найбольш мастацкія акцэнты ў інтэр'ерах Палаца далі, натуральна, габелены.

Габелены Ніны Пілюзінай "Абуджэнне" і "Покліч зямлі" вісяць на супрацьлеглых сценах невялічкай авальнай залы, у спецыяльна запраектаваных месцах. Кампазіцыя гэтых габеленаў прасякнута вобразамі беларускага фальклору. Святочнасці ім надаюць колеры вясёлкі. На адным з габеленаў промні імкнуцца ўверх да абуджэння. Другі габелен заваражвае прыгожымі выявамі каласкоў, ільну, збожжа, вянкоў, што плывуць па рацэ на Купалле.

Два габелены для малой залы прэзідыума - "Мелодыя горада" і "Мелодыя краю" выкананы Лявонам Бартлавым і Валянцінай Маркавец-Бартлавай. Ва ўтульную залу з авальным сталом габелены прынеслі адухоўленасць, лірыку, нацыянальны каларыт, вобразы роднага Мінска. Сам матэрыял - ваўняныя ніткі белага, чорнага, пунсовага, шэрага колераў - дае адчуванне роднага, блізкага, знаёмага.

Малая "Маладзёжная зала" на пяцьсот месцаў прызначаецца для канцэртаў і монаспектакляў, крэслы для гледачоў размешчаны амфітэатрам, з кожнага месца можна ўбачыць дзею на сцэне. Тут галоўную ролю ў інтэр'еры адыгрывае заслона, над якой дзесяць год працавала мастачка Галіна Крываблоцкая. Яна тры гады рыхтавала эскізы, узгадняла свае ідэі з архітэктарам М.Пераговым, і толькі пасля непасрэдна пачала працу. Галіна назвала сваю работу "Вясёлка", сугучна назве маладзёжнага тэатра пры палацы. Заслона выканана ў выглядзе рознакаляровых дуг вясёлкі. Калі глядзець на адкрытую заслону, бачыш, як сонечныя промні асвятляюць дажджавую залеву. Асноўны колер габелена - белы і ён цудоўна ажыўляе залу, якая мае зялёную падлогу. Сцены і столь таксама хацелі зрабіць зялёнымі, але мастачка "адваявала" белы колер. Галіна Крываблоцкая доўга выношвала гэту ідэю. Некалькі разоў яна мяняла кампазіцыю, бо пачынала працу яшчэ да Чарнобыля. Пасля катастрофы і настрой быў адпаведны. Але ўрэшце перамагла светлая жыццесцвярджальная нота. Уражваюць памеры заслоны: восем на шэсць метраў у два палатны. Мімволі задаеш сабе пытанне, як і ідзе можна саткаць такое палатно? Усе габелены, што знаходзяцца ў палацы Рэспублікі, вытканы з ваўняных нітак прафесійнымі майстрамі з Барысава.

У самай вялікай зале Палаца Рэспублікі размешчаны габелен "Беларусь". Так назвалі сваю манументальную работу мастачкі Вольга Грыдзіна і Валянціна Крывашэева. Памер палатна чатырнаццаць на трыццаць метраў. Шмат спрэчак вялося падчас стварэння кампазіцыі, калектыў "згубіў" некалькі чалавек, працаваць даваліся ім удзвюх. На габелене ляжыць адбітак чарнобыльскай тэмы, якая была і застаецца надзённай і балючай, што чорным колерам вылілася на палатне. Але светлыя колеры перамагаюць - у краявідах Беларусі, у вывах помнікаў гісторыі і культуры. Тут можна ўбачыць і Нясвіжскі палац Радзівілаў, і Мірскі замак, і Полацкую Сафію, і Сынкавіцкую царкву, і іншае. У аснове кампазіцыі закладзены дзве стралы. Яны накіраваны ўверх, у неба, да космасу. Унізе зялёным аксамітам раскінуліся палі і лугі Беларусі. Пры рознай падсветцы габелен іграе рознымі колерамі, для гэтага мастачкі ўвялі ў структуру палатна рознакаляровыя крапленні. Габелен аб'ядноўвае дэкаратыўнасць і жывапіснасць адначасова. Мастачкі імкнуліся захаваць традыцыі беларускіх шпалераў. На жаль, "ЛіМ" не мае магчымасці надрукаваць каляровыя здымкі і чытачы не ўбачаць на ілюстрацыях сапраўднай прыгажосці гэтых работ.

**Галіна ФАТЫХАВА**

*На здымках: Г.Крываблоцкая. Габелен-заслона "Вясёлка"; калектыў мастакоў на фоне габелена "Абуджэнне" Н.Пілюзінай.*





ЛіМ **ЧАСАПІС**

## *Зачараваная душа*



**Летась Віктар Карамазаў выдаў чарговы твор, прысвечаны выяўленчаму мастацтву. Так ужо склалася, што творцы рэдка выходзяць за цэхавыя межы. Зрэдку мастак скажа штосьці цьмянае пра музыку альбо музыкант пра жывапіс. Прытым, што абодва наўрад ці часта гартаюць кнігі, калі яны наўпрост не датычаць іхніх прафесій. Хацелася б памыліцца — але мне рэдка шчасціла гаварыць з творцамі, якіх цікавіць нешта за вокнамі майстэрні. Адпаведна і пісьменнікі рэдка бяруцца асвятляць ды асэнсоўваць такія з'явы, як архітэктура, жывапіс, музыка. Віктар Карамазаў шчаслівае выключэнне з шэрагу. Ягонае эсэ «Зачараваная душа», прысвечанае вядомаму жывапісцу Антону Бархаткову, уражвае пранікненнем у сутнасць і спецыфіку творчасці аднаго з класікаў (ужо можна гэта казаць) беларускага выяўленчага мастацтва.**

**Аснову эсэ склалі сустрэчы з майстрам на пленэры імя В.Бялыніцкага-Бірулі на Магілёўшчыне ў 1996 годзе. Той пленэр ужо стаў гісторыяй, важнай вяхою ў развіцці беларускага рэалістычнага жывапісу. Сёння мастакі даволі часта ігнаруюць жывую прыроду, непасрэдныя ўражанні, якія дорыць яна людзям з чулым сэрцам. Вінаваціць іх у гэтым не варта. Проста новы час нарадзіў іншае стаўленне да асяроддзя. Ды і само наша асяроддзе, у тым ліку прыроднае, змяняецца так хутка, што мастакі не паспяваюць фіксаваць ягоны стан для гісторыі. Калісьці мне давялося пісаць пра творчасць Паўла Масленікава, мастака аднаго пакалення з Антонам Бархатковым. Гледзячы на ягоныя творы, думалася, што будзе час, калі ад жывой прыроды застануцца толькі неба за вакном ды краявіды на палотнах старых майстроў у музеях... Пра тое ж мне падумалася і пры знаёмстве з творамі Антона Бархаткова.**

**Не мае сэнсу пераказваць змест эсэ. Адзначу толькі, што пісьменнік прыгадвае і той Магілёўскі пленэр, і выставы ў мінскім Палацы мастацтваў, і сустрэчы на радзіме мастака ў вёсцы Шчаглоўка, і гаворку з сынам Антона Стафанавіча — Ігарам, таксама мастаком. Атрымаўся аповед пра жыццё; пра эпоху, якая адыходзіць; пра вечныя каштоўнасці, на якія не ўплывае час.**

**Пасля тэксту Віктара Карамазава па-новаму ўспрымаеш і карціны Антона Бархаткова. Ягоныя «Сад у квецені», «Апошні снег», «Зімовае змярканне», ды і сюжэтныя палотны, на якіх адлюстраваны рэаліі 40—60-х гадоў. Штосьці з таго часу сёння ўспрымаецца экзотыкаю, а штосьці прымушае задумацца. Перакінуць уяўны мост у наш час.**

**Пісьменнік любіць свайго нявыдуманага героя. Гэта адчуваецца ў кожным радку. Сваё пачуццё ён перадае і чытачу.**

**П.ВАСІЛЕЎСКІ**

*На здымку: А.Бархаткоў.*
*Фота А.СПРЫНЧАНА*

## *Францыя «мяжуе» з Дзісеншчынай*

**Міёрскі гісторыка-этнаграфічны музей наладзіў выставу, прысвечаную творчасці земляка — мастака-імпрэсіяніста Віктара Жаўняровіча. Наш суайчыннік (1913 года нараджэння) жыве ў Парыжы, а гадаваўся ў Друі, вучыўся ў Дзісне. Тры раннія пейзажы, напісаныя на Прыдзвінні, і прадстаўлены землякам. А таксама матэрыялы пра жыццё і творчасць, даўнія фатаграфіі роду Жаўняровічаў. Паспрыялі такому нечаканаму «вяртанню» мастака на Бацькаўшчыну музей радзімазнаўства пры Лявонпальскай сельскай бібліятэцы, сям'я Крупенькаў — сваякоў Жаўняровіча з гэтага ж Міёрскага раёна, а таксама перакладчык з французскай мовы У.Палупанаў.**

**Сяргей ПАНІЗНІК**

МУЗЫКА

# Дэбют Лідскага канцэртнага

У 1971 годзе мне давялося слухаць "караля джаза" Дзюка Элінгтана, заснавальніка так званага стылю джунгляў, стылю настрояў і канцэртнага стылю. Я быў уражаны яго славутым аркестрам з выдатнымі музыкантамі-віртуозамі.

Прыгадалася ж мінулае з нагоды нараджэння новага джазавага калектыву — канцэртнага аркестра аддзела культуры Лідскага гарвыканкама пад кіраўніцтвам Дзмітрыя Ціхана.

Ці варта казаць, што дырыжор — душа і мозг калектыву? Ад яго залежыць, наколькі імпульсіўны рытм джазавых кампазіцый, якімі эмоцыямі прасякнута кожная п'еса. Ён павінен валодаць інтэлектам і вытанчаным густам, асабліва неабходнымі ў "лёгкай", папулярнай музыцы. Акрамя таго, дырыжору трэба мець бліскучыя арганізатарскія здольнасці, каб сабраць у зладжаны ансамбль тры дзесяткі непаўторных індывідуальнасцяў.

Безумоўна, Дзмітрый Ціхан многімі з гэтых якасцяў надзелены ад прыроды. Ён па натуры — лідэр, па прызванні — энтузіяст джаза, па перакананні — дбайны прыхільнік "жывога", натуральнага гучання, калі музыканты непасрэдна звяртаюцца да публікі.

Як інструменталіст, дырыжор і педагог Дзмітрый Ціхан сфармаваўся ў Лідзе. Ён выпускнік гарадской музычнай школы і мясцовага музвучылішча. Як былы вучань, ён удзячны свайму настаўніку і старэйшаму сябру Канстанціну Сцяпанаву, цяперашняму дырэктару вучылішча. Без яго парадаў і падтрымкі даўняя мара стварыць джазавы аркестр наўрад ці спраўдзілася б.

Калектыў дэбютаваў з вялікай праграмай, выступіўшы ў трох амплуа: эстрадна-духавога арестра, дыксіленда і біг-бэнда. Розным складам адпавядалі розныя жанры і стылі джаза.

Эстрада была прадстаўлена ў асноўным пералажэннямі песенна-танцавальнай музыкі рускіх і савецкіх кампазітараў: А. Вярстоўскага, Б. Агапкіна, В. Салаўёва-Сядога, А. Пятрова, М. Мінкова, Д. Браслаўскага. Побач з імі гучалі п'есы з вострымі лацінаамерыканскімі рытмамі, кшталту "Рок-балеро" Д. Бекера і П. Стоуна, "Ціка-Ціка" З. Абрэу, "Антонуіс-бугі" О. Пітэрсана.

Дыксіленд, як вядома, — гэта галіна новаарлеанскага стылю. Лідчане сыгралі п'есу "Мейленбергскія радасці" Л. Рапола, "Капенгаген" Ч. Дэвіса, "Расамашы блюз" Мортана.

Пад біг-бэндам звычайна маецца на ўвазе вялікі джазавы аркестр. Такія склады ўзніклі ў ЗША ў 20—30-х гадах XX стагоддзя, яны сфармавалі стыль "суінг" (ад англійскага слова "хістацца"). Адным з арганізатараў такіх аркестраў быў Бені Гудман, чыю п'есу пад назвай "Слоуфокс" мы пачулі. Потым прыйшла чарга Глена Мілера з яго складанымі "мілераўскімі" гармоніямі. Прагучалі таксама творы Н. Хэндзі, Д. Бенсана, К. Кельмі.

Характэрна, што музыканты выканалі дзве п'есы беларускага кампазітара Ганны Казловай ("Любімая", "Марыяна").

У аркестры ёсць свае аранжыроўшчыкі. Гэта Вячаслаў Пыпець, Андрэй Аляксееў, Дзмітрый Ціхан і Яўген Ларыёнаў, які закончыў Беларускую акадэмію музыкі па класе кампазіцыі ў прафесара Яўгена Глебава. Як бачым, у панараму шэдэўраў сусветных зорак арганічна ўпляліся беларускія, лідскія аўта-

# Спатканне з Радзімай

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 13)*

Увесь час сяджу я ў кузаве, а часьцей стаю і паглынаю родныя прасторы, зьліваюся з маёй непаўторнаю Радзімай. Усё мне тут падабаецца. І больш усяго людзі, якіх фізічны і псіхічны тып так адрозьніваецца ўсёй сваёю суцэльнасьцю. Беларусь не загіне, вечна жыць будзе наша краіна, і красаваць і сьвяціцца. Так мне прыемна ў родным паветры, у мілым асяродзьдзі — я мог толькі марыць аб гэтых днёх: я шчасьлівы...

...Перад Чачэрскам вялікая гара — канцовая марэна. І на гары, у жыце, здалёк ад шляху, два сумных помнікі Вялікай Айчыннай вайны. Як многа такіх помнікаў, колькі пралілося крыві...

З гары — непараўнальны, маляўнічы выгляд на Чачэрск, проста казачны гарадок. Сапраўды, раней я часта бачыў у сьне такі краявід і такі гарадок. І ўсё ў сьне знаходзіў я стаянкі і канцовыя марэны. А цяпер вось бачу ўсё гэта ў наяўнасьці! Як хораша.

*26.VI.61. Гор. Мсьціслаў. 8 г. 21 хв. раніцы.*

Дарагія родныя, маці, бацька, Ларута!

Учора прабылі мы ў Магілёві да 5 гадзін.

...Хадзілі з хлопцамі на рынак. Але мы прыйшлі туды ўжо позна, а першай гадзіне, — дык людзі ўжо разыходзіліся. Гразна на рыначнай плошчы, не падмецена. Рынак бедны. Многа паземак-клубнік, па 9 р. (90 кап.) кілаграм. Многа цыбулі, бульбы, малака. Зусім мала мяса, німа каўбас, а тым болей — беларускай, вясковай каўбасы. Прамтавараў даволі; прадавалі і дываны з самадзельнай халтурай (лебядзі, стралок, драпежныя чорныя птушкі і інш.), за 34 рублі новымі грашыма. Народ гаворыць па-беларуску, магілёўскім дыалектам, а інтэлігенцыя, падпанкі — мешанкай і па-руску. Усе абвесткі — рускія. У кніжным кіёску беларускіх кніжак амаль німа.

...Ехалі на Сухары, Расну, Ходасы, Мазалава. Сёлы тут досыць вялікія. Хаты старыя пераважна. Стрэхі ў большасьці саламяныя, але ёсьць і гонтавыя, шыферныя...

...Каля Ходасаў пачалося Беларускае, Мсьціслаўскае лёсавае плато. Рэльеф яшчэ больш роўны. Скрозь усьцяж дарогі абгаляецца лёс і лёсавідныя пароды, сьветла-жоўтага колеру. Збожжа яшчэ лепшае. Зьявілася многа пшаніцы-азімкі, вельмі добрай.

Мазалава здалося мне не такім, як 45 год назад, калі я прыходзіў сюды аднойчы з Сашкаю, Надзейкай і нашымі бацькамі. Але Мсьціслаў з боку Мазалава выглядаў такім жа прыгожым, узвышаным, урачыстым, як і некалі. Прыехалі мы каля 8 гадзін вечары...

Нас вельмі гасьцінна сустрэла сямўя Нэлі, пляменьніцы Анісьсі, яе муж Фёдар (украінец, выкладчык фізікі), яе маці, дачушка, два хлопчыкі. Новы домік Мельнікаў стаіць каля самае замкавае гары, замчышча і старога касьцёла, які будаваўся на працягу 1442-1642 гг. Мясцовасьць выключна маляўнічая, з выглядам на даліну р.Віхры. Мы адразу пайшлі аглядаць замчышча, дзе два гады рабіліся археалагічныя раскопкі. Усё замчышча цяпер — гароды, сады. Неякія шкоднікі і тут пазьнішчалі ўшчэнт агрэст, смароду...

Агледзілі падвечар Дзявочаю горку, якую некалі насыпалі ў адну ночку тысячы дзяўчат, каб абараніць горад... Дзіўнае прыгажство. З боку Віхры пачуліся гукі драча...

Увечары мы смашна частаваліся. Сям'я Фёдара Мельніка такая гасьцінная, ласкавая... Якая непаўторная была беларуская каўбаса...

...Учора па дарозе, між Ходасамі і Мазалавым, сустрэлі высокага, прыгожага мужчыну, беларуса, сумнага такога, панылага, неякага пакутніка, у лапцёх. На хлопчыкаў гэта зрабіла вялікі ўплыў.

...Падарожжа па Беларусі станоўча ўплывае і на Славучка, і на Радзімку — яны з цікавасьцю да ўсяго прыглядаюцца, да ўсяго прыслухоўваюцца, вольна дыхаюць паветрам Радзімы, набіраюцца незабыўных уражаньняў, якія застануцца на многія, многія гады, як успаміны радаснага мінулага.

*27.VI.61. Аўторак. 8 г. 15 хв. раньня. Багацькаўка.*

Дарагія родныя, Ларута, маці, бацька!

Добрай Вам раніцы! Прывітаньне з Беларусі, з нашай роднай Багацькаўкі.

Учора з Мсьціслаўля выехалі пазнавата, а 1-й гадзіне. Пахадзілі па ўсіх магазінах, абы што набылі, я купіў шэры бразэнтовы плашч за 12 р. 40 к. (дужа добры), арфаграфічны слоўнік беларускі, помнікі беларускай архітэктуры (карталюшкі) і інш.

...Надвор'е было крыху хмарнае, але сухое, і столькі ветру, пылу... Краявіды мсьціслаўскія маляўнічыя, чароўныя, бязкрайнія. Жыта сёлета добрае і сярэдняе, ужо выкаласілася, калыхаецца хвалямі нашае жытнае мора. На палёх так многа бульбы, - так мяне гэта цешыць. Але лесу нідзе німа, усё пасечанае, адны хмызьнякі абы-дзе; далёка відаць, на дзесяткі кіламетраў. А масты скрозь паганыя, гнілыя.

Заехалі ў Старое Сяло, дзе я вучыўся ў 1912 годзе. Не пазнаць нічога. Але школа тая стаіць на старым месцы — той будынак, у якім я вучыўся; а другі, большы будынак, згарэў. Хата Шведавых, дзе я жыў 49 год назад, стаіць на старым месцы. А гаспадар і гаспадыня ўжо памёрлі, сына забілі на вайне, дочкі Варка і Каця замуж пайшлі. І хаты Лейбы Крэйнгауза ўжо німа...

Заехалі ў Судоўшчыну, дзе радзілася Ніся. Сустрэлі там дваюродную сястру яе. Заехалі на могілкі. Пастаялі ля магілкі бацькі Нісі. Усё зарасло травою, бярозкі маладыя. На адной старой пліце прачытаў надпіс: "Соня Чернявская"...

Потым праехалі праз Пацастава, Антонаўкі ўжо німа, убачылі збоку Занькаўшчыну, праехалі Малыя Слабодкі, зфатаграфавалі стары каменны крыж... Дарогі на Багацькаўку з Малых Слабодак німа — разарыўся мост. Дык абўяжджалі чэраз Мардалысава, Кірыяшчыну... Лес наш Багацькаўскі зьнішчаны, а хмызьняк слабажане ўзаралі... І вось яна наша родненькая Багацькаўка...

Усё здалося не такім, як было, значна горшым, нібы пасьля якога пагрому. Німа старых садоў, гародаў, замест іх — вялікі выган. Німа агарожы ўсьцяж вуліц— стаяць паасобныя хаты... Падўехалі да Клаўдзінае хаты. Клавачка так ласкава нас сустрэла...

Схадзілі на могілкі, пабылі ў сваіх самых родных. На кладзішчы вялікія павырасталі бярозы, як у буйным тут лесе-гайку. Густая трава, кветкі, многа ягад. Усё могілкі нашых родных і добрых знаёмых. Вось і могілкі маіх блізкіх сяброў — Міхалкі і Ігната, — з якімі я хадзіў у Радзельскую школу. Вось побач з магілкамі таты, мамы, Янчкі Парфіравага магіла дзядзькі Якава, дзядзіны Хрысьцены, цёткі Праскоўўі, Мікалая Раманавіча, Ганкі, Ганны... Тут пахавана ўся наша Багацькаўка, бедныя нашы людзі...

*28.VI.61. 8 г. 15 хв. раньня. Магілёў.*

... Схадзілі ў наш сад і нашу хату. Ад саду засталося тры ліпкі на мяжы, пасоджаныя Іванам, куст шуры і дзьве яблынкі-ільлінкі, пасоджаныя М.Раманцэвічам. Усе іншыя дрэвы зьнішчаны. Зсеклі і два яленцы, пасоджаныя бацькам. Хата павернута на 180°. Засталася толькі ранейшая столь, бэлькі ды драўляны франтон з вакенцам. Хата аблеплена газэтамі, няпрытульная і гразная. Ды два абразы засталіся маміны — адзін навейшы і адзін старадаўні (я шкадую, што не папрасіў новых гаспадароў падараваць гэты абразок). Не пазнаць наша падворышча. І ўсё ўжо чужое...

Абыйшлі ўсю нашу дзярэўню, з краю ў край. Ад старога амаль нічога не засталося. Толькі Івана Дзімянка хата стаіць на старым месцы, ды сам Іван Дзімянок і яго Дзімянчыха, ды Карпіха, засталіся як жывыя рэлікты.

Сустракалі нас ласкава, гасьцінна, і ўсё частавалі — салам, яешнямі, беларускаю каўбасою, малаком і ... самагонам. Пўюць гэту атруту такжа як і раней. Былі ў гасьцёх у Гаўрылы Мікіценка, у Колі Міхалковага (такі добры хлопец, трактарыст, разумны, любіць Максімавы творы), у Клаўдзі. Неяк сумна было заставацца на большы час у Багацькаўцы. І мы раніцою і выехалі. Яшчэ раз развіталіся з магілкамі мамы і таты...

У Большай Багацькаўцы зайшлі ў госьці да Антонавае дачкі. Антона і яго жонку Арынку ўбачылі толькі на фотакартках. Дзеўкі іх усе замуж пайшлі, добра жывуць, прыгожыя. Унук Антонаў — зусім як Антон...

У Курманаве сустрэлі Храсінку, дачку Антона, якую празвалі Белкаю, Вавёркаю, — такая яна шустрая, мо таму, што пўе гарэлку, як ваду. Яна прадала сваю хату, пераяжджае да дзетак у Маскву. Хату як-раз разбурылі— адно гнільлё, паточанае шашалем.

Заехалі да майго старога настаўніка — Пятра Платонавіча Максімава. Яму ўжо 72 гады, значна пастарэў, сівы, рукі трасуцца. Але падабенства да ранейшага засталося, разумны. Мяне ён не пазнаў. Жонка была хворая, і я не бачыў яе. Дужа ласкавая дачка іх Ніна, прыяцельніца Галі, вучыліся разам у Інстытуце імя Герцэна. Гаманілі, успаміналі мінулае, усіх вучняў і настаўнікаў. Пачаставаліся, зфатаграфаваліся...

Паехалі ў Слаўнае. Сустрэла нас шумлівая Машка, Паўлюк. Пагаманілі, паслухалі скаргу на жыцьцё, ад пачастункаў адмовіліся. Пабылі ў Ягора-пчаляра, пасядзелі, пагаманілі, ад пачастункаў таксама адмовіліся. Пабылі на могілках. Абыйшлі старую царкву...

І зноў паехалі чэраз Курманава. Заехалі да Насты ў школу, але яна паехала ў Мсьціслаў. Цікава было ехаць па старых мясьцінах — Разбудзьдзе, Вушова, Шамава, Бярэзатня, Савіны Мох, Горы, Лебедзева... Вось і Горкі. У канцы вуліцы Вільямса, поўнай клуму, грукату і пылу, спыніліся каля дому 26. Зайшлі да Мікіты. Ён пагана сябе адчувае, ходзіць з кіечкам, застудзіўся. Настрой у яго зьніжаны. "Паміраю"... Падбадзёрыў яго, як мог. Парфір з Нісяй пайшлі да сваёй пляменьніцы, дачкі Гаўрылы, брата Анісьсі, гэта пляменьніца працуе ў "Учхозе".

Памыліся. Хлопцы пабылі пад душам, пасьвяжэлі. Пасадзілі частаваць нас чаем з сьвежым варэньнем сунічным. Пагаманілі, прагледзілі лісты старых сяброў, якія прыслалі карткі.

Кватэра Мікітава зусім добрая, з трох пакояў, прасторная, але вуліца Вільямса грукатлівая і спакою Мікіту німа. Здалося мне, што Мікітава жонка — добрая піла, шкадуе, што яны не ў Маскве.

Падыйшоў Дзем'ян Раманавіч Новікаў, такі сьветлы, чысты. Пагаманілі ўтрох хораша, сардэчна, хоць і многа было сумных матываў. Нашы хлопцы хадзілі разам з Парфірам і старэйшаю дачушкаю Мікіты аглядаць Акадэмію. І я пайшоў пазьней разам з Дз.Р. Акадэмія вельмі пашыраецца. Будуецца галоўны корпус, вялізарны. Лік студэнтаў будзе каля 10 тысяч замест сучасных 5. Ёсьць ужо 9 факультэтаў! А прафесароў толькі 7. Усё ў будаўніцтве, таму гразнавата і пылна. Архітэктура новых будынкаў мне не спадабалася, вялікія скрынкі, ніякага прыгажства. Парк здаўся меньшым. Але дубы старыя і ліпы такія магутныя. Агледзілі бібліятэку, поўнасьцю зьнішчаную немцамі. Цяпер усё адноўлена, каля 1 мільёну тамоў. Шмат утульных чытальняў для студэнтаў, навуковых супрацоўнікаў, многа кветак, многа партрэтаў, ня зусім мастацкіх, мне здалося. Ёсьць партрэты Кайгарадава, Дубаха, выдатных пісьменнікаў, вучоных. Але беларускіх пісьменьнікаў німа ні воднага партрэту. Мо па недагляду, Дм.Р. вельмі спагадае беларускасьці і сам крыху гаворыць па-беларуску.

Да Акадэміі далучылі навакольныя калгасы, нешта на 10-15 тыс.га! І зачым? Гаспадарка з гэтага не палепшае.

*29.VI.61. 9 г. 43 хв. раньня. Бор пры дарозе, у 6 км ад Калінкавіч каля Мазыра. Чацьвер.*

Дарагія родныя!

Добрай раніцы! Учора выехалі з Магілёва а 3-й гадзіне, па абедзе. Перад выездам зфатаграфаваліся. Ласкава разьвіталіся.

Дарога да Гомелю цудоўная. Сярод лесу, бору, па-цяньку. Пахла грыбамі, сенам, травамі.

Бачылі Брылёўскі сад, вялікі, упарадкаваны, але ў яго не заяжджалі.

Пахадзілі крыху па Гомелю, купілі сабе абычаго на вячэру. Выехалі а 7-й гадзіне ўвечары. Думалі заначаваць каля Дняпра.

Але дарога тут горшая, шаша з камню, зрэдку асфальт. Шыбкасьць язды 40 км. А Дняпро мае каля Рэчыцы такую шырачэнную пойму (поплаў), што да яго падўехаць на "Пабедзе" немагчыма. Дык мы і паехалі далей у бок Мазыра па Палесьсю. Скрозь пясок, балоты, сенажаці, палеткі, пералескі, лясы, з стромкімі дубамі... Жыта добрае і дужа многа бульбяных засеваў (сэрца маё ўзрадавалася). Многа тавару (быдла, кароў), сьвіньней.

...Німа большай прыемнасьці, як падарожжа па Беларусі на машыне "Пабедзе", самай лепшай машыне для такой мэты...

Мы задаволены. Пяем, як едзем, крычым,

ВАНДРОЎКІ

# Дабрачыннасць і дружба

У 2000 годзе беларускія музыканты, у тым ліку ансамбль флейтыстаў «Сірынкс», цымбаліст Міхась Лявончык, з поспехам выступілі на дабрачынных канцэртах у Германіі ў горадзе Хорцгерлінген. Такія ж канцэрты адбыліся і летась. Яны праходзілі ў рамках дабрачыннага фонду «Дамы замест Чарнобыля».

Мы ігралі для тых людзей, якія сваёй працай на будаўніцтве дамоў для ахвяр чарнобыльскай трагедыі робяць шчыры ўнёсак, дапамагаюць нашай краіне, успрымаючы яе боль як уласны.

Асабіста для мяне ў гэтай паездцы, дзе выступаць давялося ў якасці канцэртмайстра і арганіста, былі тры яскравыя эмацыянальныя моманты.

Першы звязаны з нашымі гаспадарамі — Эдальтраўд і Крыстофам Шыл, якія жывуць у цудоўным гарадку Хорцгерлінген на поўдні Германіі. Гэта яны зрабілі ўсё, каб наша гастроль прайшла паспяхова і слухачы на Нямеччыне змаглі ацаніць майстэрства беларускіх музыкаў. Гэта яны так спланавалі наш вольны час, што мы атрымалі шмат цікавых уражанняў — і падчас экскурсіі на Штутгарцкае радыё, і ў музеі званоў, і на саляных капальнях, дзе ў час другой сусветнай вайны гінулі нашы суайчыннікі. У іх памяць ігралі флейтысты ансамбля «Сірынкс» (дарэчы, на глыбіні 200 метраў акустыка была лепей, чым у нашай роднай філармоніі). Надвор'е падчас нашай не такой і даўняй вандроўкі ў Германію было цудоўнае — сонейка і 26 градусаў кастрычніцкага (!) цяпла, і нашы гаспадары ў гадзіны адпачынку песцілі нас і басейнам з крынічнай вадой, і настольным тэнісам, і кегельбанам.

Другі хвалюючы момант вандроўкі быў звязаны з маім сынам Дзмітрыем, які цяпер жыве ў Германіі. Мне было прыемна назіраць за тым, як ён свабодна па-нямецку вёў нашы канцэрты. (Дый і сама паездка адбылася не без яго актыўнага ўдзелу). Музыка музыкай, але сардэчныя словы, сказаныя пра Беларусь і яе чарнобыльскую трагедыю, моцна паспрыялі поспеху нашай дабрачыннай акцыі. Незвычайны вядучы канцэртаў данёс да слухачоў Нямеччыны тыя пачуцці, якія хвалявалі нашыя сэрцы. Ён распавёў, як жывуць нашы людзі, выказаў удзячнасць за грошы, што збіраюць немцы для беларусаў на канцэртах з нашым удзелам. Ён жа знаёміў публіку з музыкантамі. Усё гэта рабіла сустрэчы са слухачамі нашых канцэртаў шчырымі і цёплымі. Напэўна, нездарма ансамбль «Сірынкс» свой новы CD прысвяціў гасцінным гаспадарам — Эдальтраўд і Крыстофу Шыл, а тасама Міцю Мільто.

На адным з канцэртаў у кірсе пастар аб'явіў прыхаджанам, што ўсе службы на наступным тыдні будуць пачынацца з малітвы пра ахвяры Чарнобыля. Вельмі хвалююча, калі ўдалечыні ад Радзімы гучаць такія словы...

Пры канцы вандроўкі адбылася яшчэ адна незабыўная сустрэча — з нашым славутым суайчыннікам, пісьменнікам Васілём Быкавым і яго жонкай Ірынай Міхайлаўнай. За мяжой такая сустрэча набывае асаблівую значнасць. Хаця была яна кароткачасовая, але ж дастаткова паглядзець у вочы роднаму чалавеку — і не трэба шмат слоў. Усяго некалькі хвілін заставалася да адыходу экспрэса, на якім мы вярталіся дадому. Васіль Уладзіміравіч з жонкай праводзілі нас на пероне, пажадалі творчых поспехаў, перадалі прывітанне на Радзіму...

Між іншым, у апошні вечар, калі беларускія музыканты развітваліся з жыхарамі Хорцгерлінгена, спадарыня Эдальтраўд Шыл уручыла кожнаму ўдзельніку нашай канцэртнай брыгады каляндар на 2002 год, у якім былі адкрэслены лічбы з 16 па 25 кастрычніка. Менавіта на гэты тэрмін нямецкія сябры плануюць нашу наступную гастроль у Нямеччыну. Значыць, кантакты працягнуцца і сёлета...

**Аляксандр МІЛЬТО**





*На здымках: беларускія музыканты з сям'ёй Шыл; Васіль Быкаў з жонкай Ірынай Міхайлаўнай, Аляксандр і Дзмітрый Мільто.*

# Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

## Беларускі універсітэт культуры

**аб'яўляе конкурс на замяшчэнне пасад:**

ПРАФЕСАРА кафедры псіхалогіі і педагогікі;

ДАЦЭНТАЎ кафедр:

беларускай мовы і літаратуры, бібліятэказнаўства, менеджмэнта сацыякультурнай сферы, духавой музыкі.

СТАРШЫХ ВЫКЛАДЧЫКАЎ кафедр:

замежных моў, гісторыі і музеязнаўства, беларускай і сусветнай мастацкай культуры, харавога мастацтва, народна-інструментальнай творчасці, тэорыі музыкі, духавой музыкі, псіхалогіі і педагогікі, фізічнага выхавання;

ВЫКЛАДЧЫКАЎ кафедр:

бібліятэказнаўства, гісторыі і музеязнаўства, менеджмэнта сацыякультурнай сферы, народна-інструментальнай творчасці, харэаграфіі.

*Наш адрас: 220001, г.Мінск, вул.Рабкораўская, 17. Аддзел кадраў.*

## Шырму прысвячаецца

Кінатэатр «Змена» запрашае 10 лютага ў 11 гадзін на кінамерапрыемства, прысвечанае **110-годдзю Рыгора Раманавіча Шырмы**, стваральніка і мастацкага кіраўніка Беларускай акадэмічнай харавой капэлы, вядомага музычнага дзеяча, фалькларыста, публіцыста.

Адбудзецца прагляд дакументальнага тэлефільма **«Песня на ўсё жыццё!**

На сустрэчы з кінагледачамі будуць народныя пісьменнікі Беларусі **Янка Брыль і Ніл Гілевіч**, доктар навук, аўтар сцэнарыя дакументальнага тэлефільма **Арсень Ліс**, рэжысёр **Людгард Гедравічус**, старшыня Беларускага саюза фалькларыстаў, кандыдат навук **Васіль Ліцвінка**, прафесар філасофіі Беларускага універсітэта культуры **Мікалай Каралькоў.**

**Н.МАКРЫЦКАЯ,**
**дырэктар кінатэатра**

Раман ТАРМОЛА-МІРСКІ

## Пра спрэчку «хто ёсць хто»

*Самых-самых аж сотню наскроб!*
*Ярац яўна з гіперабал прыкметамі...*
*Дзякуй богу, што цюкнула ў лоб*
*Вершаплётаў... разбавіць паэтамі.*

*Банк асоб стаў камусьці пайком.*
*Бог вільнуў ад прарочасці нейкае.*
*Сотня ж бліскае залатнікам*
*І рублём, і нават капейкаю...*

*Вартасць вартасці кожнага з нас*
*Будзе мерана кожнага планкаю.*
*Пасмяецца над большасцю Час*
*І замажа бяспамяцтва плямкаю.*

*На паэзіі, брат, верстаку*
*Філасофскі габлюй свае вершыкі*
*Покуль падкі да слова... Пакуль*
*Цябе, грэшніка, любяць грэшнікі.*

*І не думай пра славы ранжыр*
*З ваяўнічай штодзённа ўтрапёнасцю:*
*Не дастанецца многім і жвір*
*Як падзяка хоць гэтай маёмасцю.*

ПАРОДЫІ

Павел САКОВІЧ

## Пакаянне

А хто напісаў для жонкі
вершычак хоць адзін?
Жанацікам матэрыялы
для лірыкі дзе ж узяць?
На тайну ініцыялаў
жонкі раўніва глядзяць

**Сяргей ПАНІЗНІК**

***Пакуль ападаюць апошнія гронкі***
***За вокнамі з мілых старэнькіх рабін,***
***Спытаю ў калегі: "Ты, браце, для жонкі***
***Ці склаў за жыццё, ну, хоць вершык адзін?"***

***Друкуеш, зазначу, адны прысвячэнні***
***А. Б. і В. Г. і г. д. і т. п.***
***Якія ж ты жонцы дасі тлумачэнні?***
***Не скрыць тайну шыфраў сардэчных табе!***

***А я хоць даўно ўжо таксама жанаты,***
***Інтымнымі вершамі трохі грашу,***
***Ды жонка не ведае, што вінаваты,***
***Бо іх не друкую, а ў сэрцы нашу!***

## Пішу я вершы... А ці ўдала?

Жыццё — нібыта верш няўдалы,
Бяда скараецца бядзе.
Мая журба мяне спытала:
– Ты дзе?

**Вікторыя БОХАН**

***Вікторыя — імя "крутое" —***
***Мне нездарма рашылі даць:***
***Я прэч ганю журбу з бядою,***
***Не заміналі каб пісаць.***

***А верш удалы ці няўдалы —***
***Навошта галаву ламаць?***
***У нас жа крытыкаў навалам:***
***Не буду хлеб іх адбіраць.***

***Усе рэдактары памалу***
***Друкуюць вершы — толькі дай!***
***Я славу першую спазнала***
***І ганарараў назбірала:***
***На Бохан ці — на каравай?***


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІК

**ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Павел ВЕРАБ'ЁЎ,**
**Алесь ГАЎРОН —**
*адказны сакратар,*
**Мікола ГІЛЬ,**
**Уладзімір МАРУК —**
*намеснік галоўнага рэдактара,*
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Яўген РАГІН,**
**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**
**Віктар ШНІП —**
*першы намеснік галоўнага рэдактара*



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**



**ТЭЛЕФОНЫ:**
**прыёмная рэдакцыі — 284-8461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985**
**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-8204**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985**
**літаратурнага жыцця — 284-8462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985**
**паэзіі і прозы — 284-7985**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва — 284-8462**
**фота-карэспандэнт — 284-8462**
**бухгалтэрыя — 284-8462**
**Тэл./факс — 284-7965**





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
(г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79)

Індэкс 63856 Наклад 2601
Нумар падпісаны ў друк 7.02.2002 г. у 17.30

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 836

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12